Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 25 (4825) 26 чэрвеня 2015 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта з 50-годдзем з дня заснавання. «Распрацоўкі вучоных вашай ВНУ паспяхова ўкараняюцца ў вытворчасць, а ўдзел у аднаўленні тэхналогіі вырабу слуцкіх паясоў паслужыў захаванню і прымнажэнню нацыянальных традыцый», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Пасольствам Беларусі ў Францыі і пастаянным прадстаўніцтвам Беларусі пры ЮНЕСКА арганізаваны Беларускі тыдзень у Парыжы, у межах якога прадстаўнікам французскіх улад, дзелавых колаў і шырокай грамадскасці прапанавана бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй і культурай нашай краіны.

✔ Дні духоўнай культуры Расіі ў Беларусі пачаліся ў Мінску. У ліку мерапрыемстваў — выстаўка дзіцячых малюнкаў «Душа Расіі», прэзентацыя праекта «Варонеж — культурная сталіца Садружнасці 2015», канферэнцыя «Расія-Беларусь. Перспектывы развіцця паломніцтва і рэлігійнага турызму». Дэпартамент культуры Бранскай вобласці прадставіць фестываль «Славянскае адзінства-2015» у г. Лоеве Гомельскай вобласці.

✔ Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава запрошаны акампанаваць удзельнікам прэстыжнага міжнароднага юнацкага конкурсу імя П. І. Чайкоўскага. Паводле прадстаўніка арганізатараў конкурсу, намесніка генеральнага дырэктара Міждзяржаўнай карпарацыі развіцця Сяргея Дзяменскага, гэта высокапрафесійны калектыў, які можа сыграць практычна любы канцэрт.

✔ Фільмы Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» удастоены ўзнагарод на ХХ Міжнародным фестывалі «Кіно — дзецям» у Самары (Расія). Сярод іх — ігравая стужка «Неверагоднае перамяшчэнне» рэжысёра Аляксандра Анісімава, дакументальныя фільмы студыі спецыяльных кінапраектаў «Беларускі відэацэнтр» — «Захавальнікі спадчыны» Генадзя Рабцава і «Смерш. Радыёгульня "Сябры"» Яўгена Сяцько.

✔ Больш як 100 юных мастакоў з Беларусі, Расіі і Казахстана наведалі Віцебск для ўдзелу ў традыцыйным міжнародным пленэры «Віцебск — горад Марка Шагала». Сярод мерапрыемстваў — паездка ў музей-сядзібу Ільі Рэпіна «Здраўнёва», майстар-класы ад выбітных мастакоў, экскурсія ў Полацк.

✔ У Міжнародным фестывалі вулічнага мастацтва, які заўтра пачнецца ў Гродне, бяруць удзел эксперыментальныя тэатры з Мінска, Гомеля, Магілёва, Віцебска, Жлобіна, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Данецка. На некалькіх сцэнах у цэнтры горада ўдзельнікі будуць здзіўляць пантамімай, жывымі статуямі, фаер-шоу, яркай анімацыяй ды музыкай.

ISSN 0024-4686

# АРТ-ПРЫШЧЭПКА. ДАЛУЧАЙЦЕСЯ!


Фота Кастуся Дробава

**Вавілонская вежа, сырнае крэсла, жалезны хакеіст — гэтыя (і не толькі) шматметровыя інсталяцыі ператварылі адзін з астравоў акваторыі Камсамольскага возера ў музей сучаснага мастацтва. Упершыню ў Беларусі пад адкрытым небам адкрылася выстаўка велізарных прасторавых аб'ектаў «Арт-астравы».**

Чытайце на стар. 16

# Партрэт рамантыка



**Музей «Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX стагоддзя» папоўніўся каштоўным экспанатам. Цяпер тут можна пабачыць арыгінальны партрэт Тамаша Зана, які належыць пэндзлю Валенція Ваньковіча, выбітнага мастака эпохі рамантызму.**

Палатно ўваходзіць у карпаратыўную калекцыю «Белгазпрамбанка», які займаецца вяртаннем мастацкіх скарбаў нашай краіны. Вясной мінулага года твор экспанаваўся на выстаўцы «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі», а ў Доме Ваньковічаў дэманструецца ўпершыню.

Экспазіцыя пад назвай «Вечны выгнаннік і пілігрым»: «Партрэт Тамаша Зана» прымеркаваная да дзвюх важных датаў, якія сёлета святкуе музей, — 215-годдзя з дня нараджэння жывапісца і 15-годдзя з дня заснавання ўстановы.

Вяртанне палатна на радзіму стала важнай падзеяй для ўсіх прыхільнікаў творчасці мастака. «Дагэтуль у нашай краіне не было ніводнай сапраўднай карціны майстра», — распавяла Наталля Сычова, старшы навуковы супрацоўнік установы.

Чытайце на стар. 16

У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Наперадзе Шчучын

## Пленум Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі адбыўся ў сталічным Доме літаратара.

На пачатку пасяджэння старшыня СПБ Мікалай Чаргінец распавёў пра ўдзел айчынных творцаў у сëлетніх міжнародных мерапрыемствах, скіраваных на развіццё і ўмацаванне літаратурных сувязей, у тым ліку — пра творчы візіт у Белград і на Белгародчыну, вечар памяці Васіля Быкава ў Маскве, Выставачны павільён «Міхайлаўскі манеж» (г. Санкт-Пецярбург) у межах X Санкт-Пецярбургскага міжнароднага кніжнага салона.

Плён працы членаў СПБ адзначаны высокімі ўзнагародамі. Так, кіраўнік пісьменніцкай арганізацыі Мікалай Чаргінец уганараваны расійскай літаратурнай прэміяй «Прохоровское поле» за кнігу «Аперацыя "Кроў"». Медаль Францыска Скарыны надаўна атрымаў Іван Капыловіч, Падзяку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — Ніна Чайка.

Першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў распавёў пра вынікі Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу, прысвечанага 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 70-годдзю Вялікай Перамогі, у якім удзельнічалі школьнікі, студэнты і пісьменнікі-прафесіяналы.

Сакратар СПБ Георгій Марчук закрануў пытанні падрыхтоўкі да Дня беларускага пісьменства ў г. Шчучыне Гродзенскай вобласці. Падчас святкавання там пройдзе ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў Нацыянальнай літаратурнай прэміі. Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ ініцыявала выданне калектыўнага зборніка твораў літаратараў Гродзеншчыны.

У склад СПБ увайшлі 6 літаратараў: паэты Кацярына Массэ, Аляксандр Белік, Рыгор Бабчонак, Уладзімір Рунцэвіч; празаікі Анатоль Мацвіенка і Вольга Тарасевіч. Было ўзнята і пытанне больш інтэнсіўнага прыёму ў СПБ беларускамоўных маладых аўтараў, у тым ліку пераможцаў абласных і рэспубліканскіх літаратурных конкурсаў.

**Яна ЯВІЧ**

# Рыга — Парыж — Мінск,

## або Новае падарожжа Райніса

**Ян Райніс, 150-годдзе якога адзначаецца сёлета, вядомы не толькі як вялікі паэт Латвіі: як і Янка Купала для беларусаў, ён стаў для латышоў нацыянальным прарокам. Паэт і дзяржаўны дзеяч, Ян Райніс шмат сіл аддаваў на мацаванне сяброўскіх сувязяў з народамі-суседзямі. Сёння гэтую справу працягваюць музеі паэтаў.**



Фота Ганны Бізунковай

*Адкрыццё выстаўкі святкавалася ў парку імя Янкі Купалы.*

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстаўка «Аспазія / Райніс: мяцежніца / гуманіст. Гісторыя двух латышскіх паэтаў», прымеркаваная да юбілею класікаў латышскай літаратуры. Райніса і Аспазію яднала не толькі паэзія, але і сумесны лёс. У 1897 годзе царская ўлады абвінавацілі паэта ў супраць дзяржаўнай дзейнасці і асудзілі яго на пяць гадоў высылкі ў Пскоў і Слабодск. У снежні, перад адпраўкай у высылку, Райніс і Аспазія ўзялі шлюб. Іх ліставанне, якое доўжылася 35 гадоў, уключана ў Латвійскі нацыянальны рэгістр праграмы ЮНЕСКА «Памяць свету», а 150-годдзе Аспазіі і Райніса згодна з рашэннем 37 сесіі Генеральнай асамблеі ЮНЕСКА ўключана ў календары памятных дат 2014 — 2015 гадоў.

Выстаўка распавядае пра каханне Райніса і Аспазіі, асаблівасці творчасці кожнага з іх, пра час, у якім яны жылі, і многае іншае, пры гэтым акцэнт робіцца на моцным характары творцаў, іх ролі ў стварэнні латвійскай дзяржаўнасці. Асаблівай увагі заслугоўваюць фота- і відэаматэрыялы.

Праект створаны ў межах праграмы публічнай дыпламатыі і культуры старшынства Латвіі ў Савеце Еўрасаюза. У красавіку выстаўка экспанавалася ў Salledes Pas Perdus — галоўным будынку ЮНЕСКА ў Парыжы, а з 26 мая па 7 чэрвеня — у Вяцкім мастацкім музеі імя Васняцовых у Кіраве.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Міхаіл Папкоўс зазначыў:

— Гэтай выстаўкай мы завяршаем культурную праграму ў межах старшынства Латвіі ў Савеце Еўрапейскага Саюза. Шмат мерапрыемстваў праводзілася і ў Мінску: выстаўка латвійскага бурштыну, выстаўка сучаснага латвійскага мастацтва, тыдзень латвійскага кіно... Усе яны знайшлі водгук не толькі ў спецыялістаў, але і ў шырокай публікі.

Спадар пасол падкрэсліў: «З музеем Янкі Купалы нас яднаюць некалькі гадоў паспяховага супрацоўніцтва, і адкрыццё гэтай выстаўкі напрыканцы латвійскага старшынства ў Савеце ЕС мае пэўны сімвалізм — нашае супрацоўніцтва будзе працягвацца і развівацца».

Пра плённае сяброўства з музеем Янкі Купалы распавяла дырэктар Аб'яднання мемарыяльных музеяў Латвіі спадарыня Рыта Мейнертэ, нагадаўшы таксама, што на лета нас чакае значная дата: 90 гадоў знаёмства Купалы і Райніса. «Нашыя культуры вельмі блізкія, а культура з'яўляецца адным са шляхоў, што аб'ядноўваюць народы», — зазначыла яна.

Арганізатарамі і партнёрамі выставачнага праекта выступілі Аб'яднанне мемарыяльных музеяў Латвіі, Пасольства Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Сакратарыят старшынства Латвіі ў Савеце Еўрапейскага саюза, Латвійская Нацыянальная камісія ЮНЕСКА і Музей літаратуры і музыкі (Рыга). Наведаць выстаўку можна да 18 ліпеня.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Слова маладых

**У бібліятэцы Цэнтральнага Дома афіцэраў адбыўся «круглы стол» на тэму «Паэзія маладых», ініцыяваны Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел сябры СПБ, літаратурнага аб'яднання «Доблесць», курсанты Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь.**

Кіраўнік студыі ваенных пісьменнікаў Яўген Каршукоў, старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў распавялі пра галоўныя напрамкі работы з юнымі літаратарамі. Гэта падрыхтоўка рукапісаў і выданне кніжнай серыі «Мінскія маладыя галасы», публікацыя твораў пачаткоўцаў у літаратурна-мастацкіх выданнях, прысуджэнне штогадовай прэміі «Адкрыццё года», вылучэнне на атрыманне стыпендый СПБ і г. д.

М. Пазнякоў прадставіў маладых паэтаў — членаў СПБ Яну Явіч, Дар'ю Лёсаву, Маргарыту Латышкевіч, Ганну Чумакову, Кацярыну Массэ і кандыдата ў члены СПБ Таццяну Купрыянец, якія выступілі са сваімі творамі. Маладыя паэты пачулі многа цёплых і ўдзячных слоў.

Падчас «круглага стала» была прэзентавана першая кніжка вершаў Таццяны Купрыянец «Водгукі памяці», выдадзеная днямі ў серыі «Мінскія маладыя галасы».

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Ключ да Славакіі

**Удзельнікаў культурна-адукацыйнага і выставачнага праекта «Славацкімі шляхамі Янкі Купалы» прывіталі ў Браціславе, Святым Юры, Модры, Пешчанах ды іншых гарадах і мястэчках Славакіі, якія 80 гадоў таму наведаў Янка Купала.**



*Вітае старшыня Саюза пісьменнікаў Славакіі Міраслаў Белік.*

Гэтая вандроўка — «ключ да ўзаемапазнання», як адзначыла, вітаючы творцаў, віцэ-мэр славацкай сталіцы Івета Плшэкава. Спадарыня Івета заўважыла: «Славакія і Беларусь не належаць да знаных турыстычных краін, але нам ёсць што паказаць свету», а таксама выказала спадзяванне, што вандроўка па слядах Янкі Купалы ў Славакіі пакладзе пачатак далейшым сумесным праектам.

Падчас прэзентацыі «Беларусь — Славакія: дыялог культур» славацкія і беларускія аўтары абмеркавалі стан літаратуры ў свеце, падзяліліся шляхамі вырашэння многіх праблем, якія паўсталі перад пісьменніцкімі суполкамі… Важнасць мерапрыемства падкрэсліў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Славакіі Уладзімір Серпікаў: «Сустрэчы, знаёмствы, што адбудуцца падчас знаходжання беларускай дэлегацыі, будуць умацоўваць беларуска-славацкі дыялог, падмурак якому заклаў Янка Купала». Шукаць і знаходзіць сяброў, умацоўваць творчыя сувязі заклікаў «народных дыпламатаў» у сваім звароце міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў. Прывітальны ліст да ўдзельнікаў праекта адрасаваў і міністр замежных спраў Славакіі Міраслаў Лайчак.

Зрэшты, пасля афіцыйных мерапрыемстваў творцы з дзвюх краін мелі магчымасць абмеркаваць стан літаратуры, прэзентаваць адно аднаму свае кнігі, дамовіцца пра пераклады... Напэўна, гэта паспрыяе таму, што наступную вандроўку не давядзецца чакаць 80 гадоў.

**Таццяна СІВЕЦ,**
**фота аўтара**

*«ЛіМ» для індывідуальных падпісчыкаў:*
**1 месяц — 32 900 руб.**
Падпісны індэкс — 63856

*Ведамасная падпіска:*
**1 месяц — 89 900 руб.**
Падпісны індэкс — 638562

*Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:*
**1 месяц — 20 800 руб.**
Падпісны індэкс — 63815

*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*
**1 месяц — 66 600 руб.**
Падпісны індэкс — 63880

### Акцыя!!!

***Шаноўныя чытачы «ЛіМа»!***
***У вас ёсць магчымасць гарантавана ўбачыць уласнае прозвішча на старонках нашай газеты.***
***Што для гэтага трэба?***
***Выпісаць выданне на II паўгоддзе і даслаць на адрас рэдакцыі падпісны квіток.***
***Чакаем!***

# Анатоль Крэйдзіч: «Пра дасягненні не задумваюся»



**Літаратары Брэстчыны актыўна ўдзельнічаюць у абласных і рэспубліканскіх літаратурных святах ды імпрэзах. Узначальвае Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі празаік і публіцыст, галоўны рэдактар іванаўскай раённай газеты «Чырвоная звязда» Анатоль Крэйдзіч. Днямі творца святкуе юбілей — 50-годдзе.**

**— Анатоль Мікалаевіч, што вы лічыце сваім галоўным творчым дасягненнем?**

— Ніколі пра гэта не задумваўся. Кнігі выходзілі розныя: белетрыстыка, публіцыстыка, дакументалістыка… Пісаў і вершы, але ніводнага паэтычнага зборніка не выдаў.

У свой час лічыў поспехам аповесць «Шчасце ў падарунак» (рускамоўны варыянт «Костик и Маргарита»). Цягам некалькіх месяцаў, з нумара ў нумар, яна публікавалася ў іванаўскай раённай газеце «Чырвоная звязда» і драгічынскай «Драгічынскі веснік», пасля — у часопісе «Маладосць», яшчэ — у некалькіх празаічных зборніках выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Беларусь». Атрымаў вельмі шмат чытацкіх водгукаў.

Пасля стаў лічыць галоўным дасягненнем два нарысы пра апошніх герояў Савецкага Саюза з Брэста — баявога лётчыка-франтавіка Мікалая Далжанскага і сувязіста-франтавіка Канстанціна Лазаненку. Спачатку яны былі апублікаваны ў часопісе «Полымя», потым — у адмысловым зборніку пра жывых Герояў Савецкага Саюза, якіх, на жаль, сёння ўжо няма з намі.

Потым лічыў сваім найбольш моцным творам казку-п'есу «Марыська-папараць», якая публікавалася ў часопісе «Маладосць». Але не тэкстам, дакладней, не толькі тэкстам. Рукапіс кнігі падрыхтаваны ў суаўтарстве з дачкой Кацяй, студэнткай Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, якая зрабіла выдатнае мастацкае афармленне. Кніга абяцае быць вельмі маляўнічай, у тым ліку і знешне. Для сюжэта шмат скарыстаў з вуснай народнай творчасці.

**— У якіх кірунках сёння развіваецца літаратура Брэстчыны?**

— Кірункі вызначае час і асоба пісьменніка. Так, у творчасці Зінаіды Дудзюк ёсць і гістарызм, і традыцыяналізм. Гістарычны кірунак — адзін з самых прыкметных. Прыкладам, нядаўна ў літаратуру прыйшоў брастаўчанін Анатоль Брытун і паспяхова заявіў пра сябе раманам «Пах мускусу» — прыгодніцка-гістарычным творам пра Белавежскую пушчу. Гэтую ж тэму працягваюць Анатоль Бензярук і Настасся Нарэйка. Апошняя ў сваіх вершах спалучае гістарызм з сучаснасцю.

Акрамя таго, з малодых паэтаў найбольш ярка праяўляе сябе Алёна Папко з Бярозаўшчыны, сёлета прынятая ў СПБ. Яна актыўна друкуецца ў рэспубліканскай, абласной і раённай перыёдыцы.

Поруч з беларускамоўнымі аўтарамі годна прадстаўлены рускамоўныя: паэт і перакладчык Валерый Грышкавец, намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Любоў Красеўская, Мікалай Еляневскі… Мікалая Васільевіча ўжо няма ў жывых, але яго кнігі «Мытары і фарысеі» (два раманы) і «Сэрцабіццё» (жанры меншага памеру) гэтымі днямі ўбачылі свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці»…

**— Якія літаратурныя мерапрыемствы прайшлі ў Брэсце і на Брэстчыне апошнім часам?**

— Усе не пералічыць… Сярод асноўных — міжнародны фестываль паэзіі «Сугучча слоў жывых», міжнароднае літаратурна-музычнае свята «Славянскі вянок» ды іншыя. Цяпер мы значна пашырылі стасункі з ЮНЕСКА і мяркуем ладзіць мерапрыемствы з удзелам шырэйшага кола замежных літаратараў.

**— Над чым працуеце цяпер?**

— Усяго ў маім творчым актыве 8 кніг. Неўзабаве павінна пабачыць свет яшчэ адна — вышэйзгаданая кніга-казка «Марыська-папараць». Не скончаны пакуль рукапіс рамана…

**Яна ЯВІЧ**

# Прывітанне з Амерыкі

**Пісьменніца, член СПБ Іна Саніна, якая сёння жыве ў Лос-Анджэлесе (ЗША), падчас творчага візіту ў Мінск сустрэлася з чытачамі ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5.**

Вось ужо колькі год Маіна Арцішэўская-Ерусалімчык (Іна Саніна — яе творчы псеўданім) актыўна прапагандуе за мяжой літаратуру Беларусі, робячы тым самы важны ўнёсак у падтрымку і развіццё беларуска-амерыканскіх культурных стасункаў, адзначыў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў.

Сустрэча праходзіла ў фармаце гутаркі з публікай: творца адказвала на пытанні пра шчасце, пра жыццёвы і творчы шлях, у тым ліку «амерыканскі» перыяд. Увасабленнем няпростага лёсу аўтаркі стаўся новы рускамоўны зборнік яе лірыкі «Кветкі і церніі», які выйшаў у ЗША. Падчас імпрэзы адбылася прэзентацыя кнігі з аўтарскім чытаннем вершаў, што ўвайшлі і ў гэты зборнік, і ў папярэдні, таксама выдадзены ў ЗША, — «Вячэрнія маналогі».

У творах Іны Санінай — роздум пра мінулае і сучаснасць, мадыфікацыі чалавечай свядомасці, псіхалогія светаўспрымання і асэнсавання. А яшчэ — настальгія па Радзіме (родам пісьменніца з Віцебшчыны).

**Яна ЯВІЧ**

# Вайна ў эпізодах

У бібліятэцы № 14 імя Францішка Багушэвіча ўзгадалі дзень пачатку Вялікай Айчыннай вайны літаратурнай сустрэчай «Я раскажу вам пра вайну...». Літаратуразнаўца Міхась Тычына прэзентаваў сваю кнігу «Народ і вайна», у якой разглядаюцца творы беларускай літаратуры, прысвечаныя ваеннай тэме. На першым плане — творчасць Васіля Быкава. М. Тычына расказаў пра самыя запамінальныя сустрэчы з класікам, прыгадаў апошнія выданні твораў, падрыхтаваныя гродзенскім журналістам Сяргеем Шапранам. Прыгадаў і гісторыю з аповесцю Быкава «Афганец», якую пісьменнік перадаў яму на захаванне.

Міхась Тычына зазначыў: «У памяці беларусаў вайна засталася інакш, чым у памяці Захаду. «Каб не было вайны» — глыбінная думка беларуса, а не нагода пажартаваць з нашага талерантнага суайчынніка».

Падчас сустрэчы былі прадстаўлены кнігі з серыі «Дзеці вайны» выдавецтва «Чатыры чвэрці». Паэтка Ніна Галіноўская расказала пра зборнік вершаў «Няма даравання вайне»: «Час ішоў, і я зразумела, што павінна даступнаю моваю апісаць эпізоды, якія мне асабліва запомніліся». Аўтарка прыгадала сваё ваеннае дзяцінства — зямлянку, акопы, уцёкі пад кулямі, грукат машын, на якіх ехалі карнікі...

Апавяданні з кнігі Міхася Пазнякова «Хлеб для партызанаў» заснаваны на падзеях сямейнай гісторыі, якую часам згадвалі бацькі пісьменніка. На думку М. Пазнякова, лепшыя творы пра Вялікую Айчынную яшчэ наперадзе. Дагэтуль мала раскрытая тэма дзяцей вайны, жанчын вайны — беларускіх дзяўчат і матуль, якія жылі на акупаваных тэрыторыях, звездалі нястачу і гора, але захавалі ў душы святло і дабрыню.

Супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры прадставілі літаратурна-дакументальную выстаўку «Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому...», у аснову якой пакладзена апошняя прыжыццёвая кніга пісьменніка. Выстаўка раскрывае тэму жыццёвага і творчага шляху В. Быкава, распавядае пра яркія старонкі біяграфіі.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Карані бухенвальдскай травы

Дзявятая па ліку кніга Наталлі Саветнай «Пучок травы» атрымалася пранізліва праўдзівай. На яе старонках — галавечыя лёсы, гісторыі нашых землякоў, жыцці якіх так ці інакш зачапіла Вялікая Айчынная вайна.

Павіншаваць пісьменніцу з нараджэннем новай кнігі ў культурна-асветніцкі цэнтр «Гарадок» г. Гарадка Віцебскай вобласці прыйшлі неабыякавыя да творчасці зямлячкі аматары літаратуры.

Кніга прысвечана настаўнікам Гарадоччыны — удзельнікам і дзецям вайны. Падчас прэзентацыі Н. Саветная патлумачыла сэнс назвы:

— Адна з гераінь гэтай кнігі ў размове са мною згадала, як падчас паездкі ў Германію кіраўнік іх групы распавядаў: На каранях бухенвальдскай травы — рэшткі костак...

«Пучок травы» — прысвячэнне ўсім, хто вынес на ўласных плячах жахі вайны і адначасова 70-гадоваму юбілею Перамогі ў Вялікай Айчыннай.

— Сёння, калі сведак ваеннага ліхалецця засталося мала, асабліва важна захаваць іх праўду для будучых пакаленняў. Таму я і ўзялася за гэтую кнігу, — распавяла творца. Дарэчы, усе імёны герояў сапраўдныя.

Другая частка зборніка — мастацкія нарысы, куды ўвайшлі і дзённікавыя запісы нашага земляка — удзельніка вайны ў Афганістане Аляксандра Каваленкі.

Наталля Саветная сабрала багата іншых цікавых матэрыялаў, якім, магчыма, знойдзецца месца ў новай аўтарскай кнізе.

**Ганна НАВУМАВА**

# Дэсант. Творчы

Дванаццаты выпуск літаратурна-мастацкага дадатку да часопіса «Армія» — «Армія і Культура» — цалкам прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Укладальнікі — члены рэдакцыйнай калегіі пісьменнікі Яўген Каршукоў і Міхась Пазнякоў.

Паэзія ў юбілейным выпуску прадстаўлена вершамі Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Міколы Мятліцкага, Яўгена Каршукова, Віктара Кудлачова, Фёдара Чычкана і інш. У раздзеле «Проза» апублікаваны ўрыўкі з кнігі Анатоля Сульянава «Непераможныя» і ўрыўкі з аповесці Міхася Пазнякова «Капітан Зыкаў». У альманаху шырока прадстаўлена публіцыстыка, дзе выступаюць Леанід Екель, Віктар Паўлаў, Барыс Далгатовіч, Анатоль Сульянаў, Уладзімір Макараў.

Пра жыццё і творчасць знакамітых пісьменнікаў — удзельнікаў вайны Івана Мележа, Андрэя Макаёнка, Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Алеся Савіцкага разважае ў артыкуле «Засталіся на баявым пасту» доктар філалагічных навук, пісьменніца Таццяна Шамякіна. Змешчана і рэцэнзія на ваенную кнігу Анатоля Сульянава «Непераможныя».

**Павел КУЗЬМІЧ**

## Ганна ЧУМАКОВА



***

*Спіць вакзал — ён таксама стомлены*
*Ад гасцей сваіх званых-нязваных.*
*Заплятае карункі пад столяю*
*Белаваты парок дыхання.*

*Цішыня пранізана шэптамі,*
*Цемру плавіць святло ліхтарнае…*
*Мітусліваю зграйкай шэраю*
*У куточку туляцца мары*

*Чалавечыя,*
*Не-да-рэч-ныя…*
*Не прайшлі мо*
*Дагляд на мытні?..*
*Не змясціліся ў заплечнік?..*
*Незаўважна з кішэні выпалі?..*

*Ці з душы?..*
*Нібы фанцік цукерачны*
*У сшарэлым апалым лісці*
*(Чалавечыя,*
*Зня-ве-ча-ныя…)*
*Ледзь прыкметна, згасаючы, бліскаюць*

*І чакаюць*
*У зале чакання —*
*Не, не літасці гаспадаравай!.. —*
*Адыходзіць цягнік на світанні*
*У краіну нядзейсненых мараў…*

***

*Мы жывём на акрайку сусвету —*
*за апошнім прыпынкам метро...*
*горад ловіць жывое паветра*
*у сіло тэлефонных дратоў,*

*а пасля прадае, ды нятанна,*
*за валюту — заўзяты гандляр:*
*еўра вераў,*
*даляры спатканняў,*
*франкі радасцей,*
*маркі мар...*

*не пагрэбуе дробнай манетай —*
*сны і ўсмешкі ў кішэні кладзе*
*за апошні глыточак паветра...*

*мы жывём на акрайку сусвету —*
*у трушчобах бясшчасных людзей...*

***

*Я ў сталіцы таксама рамантык, але*
*Тут рамантыкаў гэткіх даволі.*
*Раскіданыя вершы ляжаць на стале*
*Горкай горкаю з'едзенай солі...*

*Мне прагматыкам быць бы*
*і грошы капіць*
*На Канары, машыны, кватэры…*
*Толькі болей ад солі той хочацца піць*
*І ў дабро чалавечае верыць…*

*Пасміхаецца сябра: «Пара*
*пасталець!»,*
*Толькі цяжка ўздыхае матуля…*
*У сталіцы рамантыкаў сотні, але*
*Сярод іх застануся пакуль я…*

***

*Сонца*
*на горадзе*
*коціцца,*
*Перасокваючы праз каналы:*
*Спяшаецца,*
*Будзіць усіх:*
*— Будзе*
*Вам спаць,*
*Калі я ўжо ўстала!..*

*Спатыкаецца,*
*Цокае па брукаванцы*
*Лапамі,*
*Коламі,*
*Абцасамі…*
*У фантан забурыўшыся,*
*Умываецца,*
*Па вадзе далонямі пляскае,*

*Абтрасаецца:*
*— Бр-р-р-р!*
*Калмата-вясёлае,*
*Вясёлак*
*Сотнямі сыпле*
*У каву — цукрам,*
*На яечню — соллю,*
*Круглае, жоўтае, сытае…*

*У трамвай ледзь-ледзь паспявае*
*ўскочыць,*
*Едзе «зайцам» —*
*Зайчыкам сонечным,*
*Кідаецца*
*Хлопцам*
*Пад ногі і ў вочы*
*Спакуснай сукенкай дзявочай.*

*Спускаецца нават у недры змрочныя*
*Метро,*
*Каб «Так, я такое!» адзначыць,*
*На плячы аголеным,*
*У акулярах сонечных,*
*У шчырай усмешцы дзіцячай…*

*— Уф-ф-ф!*
*Ну, паўсюдна паспела, быццам!*
*Нікога без увагі не кінула?!. —*
*Села на дах,*
*ножкі звесіла*
*весела:*
*— Працуйце, працуйце, мілыя!..*

***

*Кожны твой верш — пра мяне —*
*Ці ведаецца, ці не верыцца…*
*(я — у сваёй мане —*
*шчырая верніца).*

*Кожны ўздых твой — мой*
*Праз ростані і прорвы…*
*Лёс напаіў з адной*
*Студні дняпровай.*

*Роднай вады палын*
*Мёд чужы не спатоліць…*
*Кожны радок стыне*
*Тваім*
*Болем…*

***

*Навальніца-нявольніца*
*У горадзе гэтым*
*Сярод хмарачосаў гойсае…*
*Грымотамі гахкае з гулкім рэхам*
*Ды не можа вырвацца прэч*

*З кайданаў асфальтавых,*
*Пасткі бетоннай…*
*Маланкамі ў вокны зыркае,*
*Сама ў сабе тоне*
*І стогне*
*Цяжка,*
*Нібы без'языкая…*

*Неба на дол шпурляе талеркамі,*
*Рэжа пальцы-струменні аскепкамі,*
*Асцярвянелая, ашалелая,*
*Звар'яцелая ад істэрыкі…*

*Трасецца ў плачы*
*Плячыма напружанымі,*
*Ледзь прытомная…*
*Раз прадапошні…*
*Апошні…*
*Сціхае…*
*Ш-ш-ш! —*

*У каляровых лужынах*
*Толькі блакіт раскрошаны…*

***

*Прыстань — маці калені,*
*Выспа сярод будзённасці —*
*Сніцца:*
*Імгненне —*
*Матыль-аднадзёнка*
*Так звонка*
*Тахкае ў шкло,*
*Расцягнута-пухкі праз прызму*
*Вялізнага*
*Слоіка часу…*
*Такая вось асацыяцыя…*
*Такая вось алегорыя:*
*Я — ён,*
*Ён — я…*
*Мы трызнім на пару,*
*Марым*
*І верым*
*У рэінкарнацыю:*
*Ён — прачнецца ў маці*
*На выспе каленяў,*
*Я — мо таксама высплюся,*
*Але не пасталею…*

## Алена ГІНЬКО



## Тузбіца

*Тузбіца.*
*Пастаўшчына…*
*Вярба*
*Хіліцца да рэчкі-ручаіны…*
*Храм пакут маіх, мая журба,*
*настальгія,*
*мой выток адзіны.*
*Вёска — незабудка,*
*каласок,*
*рунь надзей*
*і поле успамінаў —*
*туліцца цнатліва да лясоў…*
*Корань дрэва — тут.*
*А дзе галіны?*

*…Сцежачка крывая на клады…*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Сэрца, птушкай узляці*
*да Неба!*
*Яркай знічкай азары брады,*
*лапік лесу, вёску, поплаў, глебу.*
*Асвяці мне радасцю здаля*
*землякоў аблічча,*
*іх Святыні…*
*Тузбіца, пастаўская зямля, —*

*мой народ*
*ніколі тут не згіне.*

## Самотная птушка

Аўтапартрэт

*Дзіўная, незразумелая,*
*ад палыну ап'янелая,*
*з вераю, спадзяваннямі,*
*з вечнымі расчараваннямі.*
*Золкамі і змярканнямі,*
*стрэчамі і расстаннямі,*
*з лекамі і атрутаю,*
*вольная і закутая.*
*З ружамі і рамонкамі,*
*ціхая — надта звонкая,*
*добрая — і найгоршая,*
*горкая — найсалодшая.*
*Птушкаю адзінокаю*
*лётае і галёкае,*
*будзіць абшары шэрыя*
*болем, трывогай, вераю.*
*…Вечныя супярэчнасці*
*на раздарожжах вечнасці.*

***

*Замільгаў светлячком за парогам*
*і… патух, як з лучыны агонь.*
*Дармавога бывае замнога,*
*а каштоўнага — на далонь.*
*Цераз бераг круты пераскочыў,*
*а пад стромай вада вірыць.*
*Хтось зачаста мазоліць вочы,*
*ну а нехта — і не глядзіць.*
*Затрымаўся на міг на паўстанку —*
*і спазніўся… на цэлы лёс.*
*…Накувае зязюля-падманка,*
*каб мне шчасцейка ты прынёс.*

***

*Я думала душой,*
*а быў патрэбны розум…*
*Я ж думала душой,*
*бо я была з табой.*
*Я думала душой,*
*адкінуўшы цвярозасць,*
*бо я жыла табой*
*і я была табой.*
*Я думала?..*
*Ды ну!..*
*Я ў мроіве лунала.*
*Цяпер сябе кляну*
*адну —*
*адну —*
*адну…*

## Бывай

*Занадта зямная?*
*Я знаю.*
*Я знаю, каханы.*
*Бывай…*
*Бывай, парушынка адчаю*
*і мой акіянны адчай!*
*Бывай, маё Сонца, і мара,*
*і мора Кахання…*
*Бывай!*
*Я Хмара, знямоглая хмара,*
*дзе вернага сэрца адчай.*
*Куды мне паплыць, не спазнаю —*
*у бездань адчайна гляджу…*
*Я хмараю адплываю*
*з лавінай адчаю-дажджу…*

## Барыс САВІНАЎ



## На вуліцы дзяцінства

*Зноў у дзяцінства з самотай гляджу,*
*Душа ў хваляванні крыляе.*
*Вобразы любыя ў сэрцы нашу,*
*Пяшчоты тае не хапае.*

*Дом пахіліўся, віецца дымок*
*Ад печы, дзе цепліцца памяць.*
*Быццам павесіў расстання замок*
*На час, дзе гадоў маіх замець.*

*Зрэдку юнацтва прыгадваю дні,*
*Школу ў бацькоўскім мястэчку.*
*Нібы міргаюць у вокнах агні,*
*Усё — быццам памяці свечкі...*

*Дзесьці квітнеюць дзяцінства сады —*
*Смаку, на жаль, не адчую*
*Бо непаўторнасці любай гады*
*Былой асалодай частую.*

## Блаславенне

*Пяро, прабач мяне, прабач,*
*Пішу я сэрцам, не інакш.*
*Калі й не пішацца — хоць плач…*
*Тварыць — нялёгкая задача.*

*У нараджэнні думак, слоў*
*Я адчуваю рытмы сэрца*
*І гукі родных галасоў,*
*Ляноту — прэч: ёй тут не месца.*

*Каб мой імпэт зусім не згас,*
*Я лашчу мрою і натхненне.*
*Настаў і мой сягоння час,*
*Прыйшло з нябёсаў блаславенне.*

## Каўчэг духоўнасці

*Каўчэг духоўнасці і ведаў —*
*Бібліятэка, храм душы.*
*Любімай кнігі можна зведаць*
*Таемнасць думак у цішы.*

*І не дарэмна так зацята*
*Спаткання з ёю я чакаў —*
*Сягоння Пушкіна заўзята,*
*Нібыта ўпершыню, чытаў.*

*Мяне адолела натхненне –*
*Радкі чытаю зноў і зноў,*
*Лаўлю «дзівоснае імгненне»,*
*Дакладнасць рыфмы, трапнасць слоў.*

*Каўчэг, дзе я адпачываю,*
*Дзе мудрасць чэрпаю з вякоў,*
*Дзе думкі, мары спавіваю*
*Пяшчотай пушкінскіх радкоў.*

**Пераклала з рускай мовы**
**Рэгіна РЭЎТОВІЧ**

Дэбют

Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

**Ганна Навасельцава нарадзілася ў Віцебску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава і аспірантуру. Кандыдат філалагічных навук, працуе на кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П. М. Машэрава. Аўтар міфалагічнай аповесці «Святло зямлі Неўрыда» (2011), друкавалася ў рэгіянальных выданнях, часопісах «Маладосць», «Полымя».**



# Залатыя яблычкі

*Міфалагічнае*

— На высокай залатой горцы расце дзівосная залатая яблынька. Не падабрацца да яе блізка… Паўстане Дунай глыбокі, вадою неаглядный разальецца, але цябе не пусціць. Не пераплысці яго, не перайсці. А далей лес цёмны, як тын высокі, злосна выскаляецца. Пракляты, страшны… Ды толькі і гэта яшчэ не ўсё. Скруціўся ў яблыньчыных каранях, нібы кот, вуркоча, вачыма цепае змей падманлівы. Нікому не дазволіць кранцца маладзільнага яблычка. Ані знесці, ані скрасці. Не прабачае, карае. І скажа кожнаму, што зямля яблыкамі пахне… Яблыкамі пахне зямля.

— З чаго б яму так казаць? — нецярпліва азываецца адзін малады, чуйны. Як быццам не пытаецца ў сталага, пасівелага вандроўніка, як быццам сам разважае. — Тут, мабыць, нешта не тое…

І неадабральна глядзяць на яго ўсе цікаўныя, якія сабраліся паслухаць дзівы-дзіўныя. Маўляў, памаўчы ты, самы разумны.

— Не тое, саколе мой ясны, не тое, — гучыць паспешлівая згода. — Ды ці мала што можна наплесці? Болей зважай на маю гамонку…

— А я не надта і зважаю! — Як прымае выклік самы дасціпны. — Толькі скажы, вандроўнік… У словах тваіх як быццам паўстае сам герой, які зрабіў усё немажлівае: пераплыў Дунай, прайшоў праз цёмны лес. Ці не ведаеш ты яго?

— Ён не герой… І я не ведаю яго. Не страчаў ніколі…

— Шкада… — расчаравана ўздыхае дапытлівы.

— І не кажы, ясны саколе! — мякка ўсміхаецца вандроўнік, але вядзе няспешную гамонку далей:

— Быў адзін. Не герой, не чараўнік. Не жадаў ані багацця, ані славы. Чаго ж пайшоў у далёкі ды няпросты шлях? Не спалохаўся, не супыніўся… Снілася яму дзяўчына прыгожая, прасіла дапамогі-вызвалення. Змеева паланянка…

Да яблынькі залатой моцнай замовай прывязаная. Хто ж яна?.. Чаму змей цёмны гэтак яе вартуе? Не дазваляе нізка схіліцца да вады, каб сама не ўдалася крыніцай ды не збегла прэч з імклівымі хвалямі… Не дазваляе ўсміхнуцца вятрам, каб не ўхапілі, не знеслі. Як быццам і радасць простая забаронена. Толькі яблыкі залатыя ўсе ёй аддае. Весяліць-цешыць…

Не ўсцешна дзяўчыне. Маркотна. Хочацца птушкай паляцець з высокай залатой горкі. Сны чарадзейныя снуе, у свет пасылае ды кліча, каб назад вярнуліся. Прывялі да яе героя… Які Дунай-раку пераплыве, лесу цёмнага не збаіцца ды змея адужае. Пераплыў. Не збаяўся. Мабыць, і адужаў. Збег далёка з палонніцай. Не каханай і не сястрою…

— Толькі… паўстаў зноўку змей. Не было яму смерці. Узняўся, як страшны праклён. Як страта, як гора… — не хавае смутку вандроўнік. — Нельга яго пазбыцца…

— Праклён? Гора? — зноў падае голас дапытлівы. — Хіба не скраў ён самае вялікае шчасце, якое толькі можа быць у свеце… Гэта ж яно дзяўчынай каля залатой яблынькі сядзела, чарамі вялікімі гуляла, спакою не хацела. Яго ж змей бярог-вартаваў. Дык чаго таму герою болей?

— А не бывае скрадзенага шчасця… — асцярожна азываецца нехта.

— Дык таму і не бывае, што скрадзена даўно! Зніклі ягоныя сляды ў вялікім свеце… Нам усім — пакутаваць ды зняверыцца, але шчасцем не завалодаць. Вось што зрабіў той самы герой… Лепшы з лепшых…

— Ён не лепшы! — перакананa ўздыхае вандроўнік. — Ніколі не быў лепшым-абраным…

— А якім быў? — нясмела пазірае яшчэ адзін дапытлівы.

— А хто быў лепшым ды абраным? — ізноў нехта не змаўчаў.

— Ды што вы ўсё… Як было далей, калі вярнуўся змей? Ад яго ж нельга збегчы…

Уважна сочыць за самым цікаўным вандроўнік ды мовіць нібы яму аднаму:

— Нельга… Далёка яны схаваліся, але дагнала іх пасланае змеем гора-ліха. Удалося яно беднасцю-нястачай ды пагрукала ў дзверы… А змей тае гадзіны прычакаў ды літасцівым-спагадлівым прыкінуўся…

— Далёка лётаеш, ясны саколе, забіраеш тое, што не тваё. Ды ўцякаеш… Хіба ж так трэба чыніць герою? Смеламу… Сумленнаму… Толькі што ж старое памінаць… Ляжаць у пячорах маіх скарбы вялікія. Як лепшаму сябру табе дапамагу. Бяры золата-срэбра колькі схочаш.

— Нічога не рабіў, нічога не зробіш ты дарма… Чаго табе за гэта? Хочаш завалодаць маёй душою?

— Няшмат і папрашу. Навошта ж табе душа, як маеш залатое шчасцейка? Прыходзь да мяне ў госці…

— У пячоры цёмныя, глыбокія?

— Сюды. А дзе ж яшчэ багацці незлічоныя хаваюцца? Слова даю, што са свету цябе не звяду, без жыцця не пакіну…

— Ляцеў змей пагоднай ноччу, нёс багацці вялікія. Каму? Не герою… Не сумленнаму. Не смеламу.

— Як не прыйшоў ты да мяне, то я прыйду да цябе… Мары твае таемныя спраўджу. Шчасцейка жаданае ўтрымаць дапамагу. Як скраў залатое, то чаго ж не беражэш? Для яго бяры грошы-скарбы вялікія, не бойся…

І спытаў у змея герой:

— Будзеш і далей за мной лётаць, спакою не даваць? Як ёсць усюды мой след знаходзіць… Спакушаць-усміхацца…

І адказаў змей герою:

— Забраў ты ў мяне самае лепшае. Не забудуся пра цябе… Не пакіну. Знайду…

— Не паспеў сказаць, для чаго… Ляснуў нябесны перуновы агонь — і спарахнеў змей. Не так сабе чакаў навальніцы, не так сабе выйшаў герой на высокі пагорак! — пераможна глядзіць на самага дапытлівага вандроўнік.

— Не спарахнеў. Стаў каменем ад зыркага агню, — адказвае дапытлівы-цікаўны. — А багацці, ворагам прынесеныя, герой сабе забраў!

І як быццам сумеўся гаварлівы вандроўнік, не знайшоў, што прамовіць… А вось цікаўны не змаўчаў:

— І была гэта не апошняя іх сустрэча… Адрадзілі чары камень. Паклікалі дзівосы лепшага. А мабыць, шчасцейка-дзяўчына застацца без яго на белым свеце не пажадала…

— Не пажадала, не змагла… — лёгка паўтарае вандроўнік, нешта пакутліва зразумеўшы.

— За што ж яна гэтак з героем? — у здзіўленні прамаўляе хтосьці.

— Не з героем… Са змеем, — апераджае вандроўніка самы цікаўны. — Яму не падаравала ані кахання, ані волі. За чаканне няспраўджанае, за боль…

— За чаканне. За боль, — ціха прамаўляе вандроўнік ды вядзе гамонку далей. — Ператварыўся змей у прыгожага малойца ды з'явіўся дзяўчыне. Не пазнала яго…

— Што сумуеш, яблынька мая ясная? Чым цябе ўсцешыць?

— Сумна мне, і нічым ты не дапаможаш… А вось каб вясёлка радасная над маім домам кожны дзень з раніцы аж да ночы пераліваласяя, то з таго б павесялела.

— Будзе табе вясёлка…

Заіскрылася з раніцы аж да ночы кожны дзень пераліўістая вясёлка — толькі не ўсміхнулася дзяўчына.

— Няхай кожнае ночачкі вятры прылятуць, мяне закалышуць, песні праспяваюць, няхай усяму свету славяць маю прыгажосць…

Прыляталі-калыхалі, толькі не ўпадабала дзяўчына песні вятроў.

— Вольная воля табе, яблынька мая залатая. І чары найвялікшыя. І сэрца маё… Чаго ж табе не цешыцца?

— Не трэба мне ўсяго гэтага, — капрызліва адказала названая яблынькай. — І смяяцца-весяліцца я не буду! Я іншага чакала, не цябе…

— Як сабе хочаш… Не да твару весялосць, будзе табе смутак. Толькі выканай маё жаданне.

— І яна выканала змеева жаданне? — тояць дыханне ўсе цікаўныя.

— Адкуль жа мне ведаць? — прыжмурвае вандроўнік, як сапраўдны кот, глыбокія мудрыя вочы. — Але ж нездарма кажуць, што змей ды быў спакуснікам…

Глядзіць на самага цікаўнага, чакае нецярплівага, нязгоднага слова. Але самы цікаўны-дасціпны маўчыць… Хутка перарываецца няўручная цішыня:

— А што з тою дзяўчынай было далей?

— А што ж магло, як не хацела быць абраннікай? — сумна ўздыхае вандроўнік. — Паляцела шэрай зязюлькай, шукае свайго сына…

— Змей прычакаў ды знёс яе сына за горы высокія, за долы шырокія, за лясы глухія… Скраў героевага сына, — не хаваюць праўды ўсе неабыякавыя. — Ведаем, чулі…

— Не героевага, — глядзіць вандроўнік у вочы самаму-самаму. — Не кранаў той змей нічога чужога…

— Яблыкамі пахне зямля, — адказвае самы-самы. — Там, за гарамі высокімі, за доламі шырокімі, за лясамі глухімі, яблыкамі пахне зямля… Трэба адолець, перамагчы, прайсці… Там маркотна, там цяжка.

— Адкуль жа ты ведаеш? Хіба гэта цябе змей скраў-знёс у цёмную няволю? — здзівіўся нехта.

— Гэта не мяне. Зусім не! — адказвае ўсім ды ўсміхаецца вандроўніку самы цікаўны.

— Вось каб даведацца, што там, на залатой горцы, за гарамі, за доламі, за лясамі, — мройна ўздыхаюць прагныя да нязведанага. — Вось каб паглядзець…

— А што там? — не маўчыць самы-самы. — Страты чалавечыя…

— А там прыкуты жалезнымі ланцугамі змей за справы свае цёмныя. Прыкуты да самай чорнай гары, — ціха азываецца вандроўнік. — Учынілася так, як астатні раз перастрэліся яны з героем. Змагаліся-біліся ды перамог герой, як належыць герою… А зваяванага хітрага ворага пакараў! Ды абяцаў да скону помсціць яму ды ўсяму змеевагу роду.

— Чаму ж не зніклі цуды з усяго свету?! — не пытаецца — разважае хтосьці. — Не мінуліся…

— Чаму ж даўно-даўно ніхто на вочы не бачыў героя? — ізноў не маўчыць нейкі цікаўны. — Як быццам знік зусім, пайшоў і не вярнуўся…

— А ці знойдзе пуцявіну той, знесены за свет, далёка-далёка. Выпрабоўвае яго змей…

— Не выпрабоўвае — вучыць…

— Не вучыць — прылашчвае…

— Ды як жа ўсё гэта, калі да цёмнай гары прыкуты?! Забірае ж яна змееву чарадзейную сілу…

— Точыць ён гару. Чакае таго, хто вызваліць. Ланцуг жалезны перасячэ… Мабыць, што і цябе чакае, — проста мовіць вандроўны, уніклівa паглядаючы на самага-самага. — Вярнуцца трэба, успомніць, што была некалі цёмная гара залатою… Адпусціць на волю прыкутага да вялікай гары.

— І расла на гары залатая яблынька, — усміхаецца самы-самы. — Ці не хопіць ужо… Супыніся.

— Чаго ты?! — пакрыўджана азіраюцца іншыя. — Цікавае дзіва-показка…

— Цікавая, — лёгка згаджаецца вандроўнік. — Яшчэ якая… Да таго ж пакуль не скончаная…

— Думаеш, змей вырвецца? Прычакае свайго збаўцу? — гамоняць цікаўныя.

— Не думаю. Проста ведаю гэта, як сонца яснае ведае свет, — шчыра глядзіць вандроўнік.

— Навошта? — пытаецца самы-самы. — Змей усім адпомсціў, усіх пакараў…

— Ды не помсціў ён, не караў. Проста не дазволіў узяць не свайго яблыка… Скрасці маладзільны яблычак… — нехта расчаравана ўздыхнуў.

— А што гэта за, яблычак маладзільны? Чарадзейны? Мары здзяйсняе… — мовяць між сабою цікаўныя.

— Мабыць, просты, непрыкметны, але той, хто ўтрымае яго ў руках, будзе заўсёды шчаслівым, — глядзіць вандроўнік на самага цікаўнага. — Ты ўважна мяне слухаў. Гэта хацеў уведаць? Не падасца залаты яблык залатым…

Пакутліва маўчыць самы цікаўны, але радасна абуджаюцца іншыя:

— Растуць яблыкі маладзільныя на залатой яблыньцы… Трэба адно знайсці-сарваць…

— Ага, залатой-срэбранай… Як прыйдзе ў сэрца суладдзе і спакой, то здаецца, што яблынька каля маёй хаты ўся чыста як аблітая… Так бы глядзеў і не мог наглядзецца…

— А ці ёсць такая наогул? Ладная показка, але ці праўда тое…

— А кажуць, — быццам рыхтуецца самы-самы да нечага важнага, — не змей прыкуты да цёмнай гары, а герой. Змей жа стаіўся сярод людзей…

Ды не слухае яго ніхто… Рагочуць з такой мудрасці.

— Ходзіць, свайго сына шукае, — смяецца вандроўнік разам з усімі. — А той нечага хаваецца, як быццам ад самога сябе можна схавацца… Нязгодны з бацькавай воляй, бо азываецца ў ім чалавечая слабасць. А змей усё роўна ўчыніць, каб усё было правільна, бо інакш быць не можа. Ды што пра гэта казаць. Бачыш, ніхто не верыць у змееву дабрыню…

І далей мовіць ціха, засароджана:

— Вы не ўчуеце, як моцна пахне яблыкамі зямля. Цягне з іх сакавіты водар ды маладую сілу. Забірае хутка, хоць нябачна… А вы тым болей падаеце, множыце сваю спакусу. Як покатам пакаціліся некуды — першае, другое, трэцяе… Мабыць, што і залатыя. Ды няўжо ніколі не будзе канца… Што сказаць яшчэ? Шчыра жадаю ўсім прагным знайсці свой маладзільны яблычак! Той, што ад залатой яблынькі… Якая на высокай горцы… За вадою глыбокай, за лясамі цёмнымі. І там вас чакае нехта, які ведае навылёт усе вашыя думкі, — пазірае вандроўнік на ўсіх цікаўных з хітрынкай. — Скруціўся, нібы кот, вуркоча ды чары множыць. Не прабачае, карае, бо яблыкамі пахне зямля.

# «Заві людзей...»

**Апошнія словы, якія Кузьма Чорны паспеў напісаць у сваім «Дзённіку», усім вядомыя і не раз паўтараліся. І гэта словы малітвы, поўныя адчаю: «Божа! Напішы за мяне мае раманы, хіба так маліцца, ці што?..» Дачка пісьменніка Рагнеда Мікалаеўна, уважліва выслухаўшы мае развагі — развагі аспіранта, які захапіўся пісаннем дысертацыі пра псіхалогію творчасці класіка, — з адкрытай шырокай усмешкай, якая так нагадвала ўсмешку самога Мікалая Карлавіча, сказала тое, што, мабыць, не ўсім казала: «Бацька ўжо не мог гаварыць і паказаў вачыма на ліст паперы, на якім напісаў словы — рука бяссільна спаўзала зверху ўніз: «Заві людзей...»**

### «ЖЫЦЦЁ ТЫ МАЕ!..»

Кузьма Чорны, які нарадзіўся 24 чэрвеня ў «нулявыя тысяча дзевяцьсотыя», жыў і ствараў у эпоху змагання беларусаў за сваю свабоду і незалежнасць. Узлёт яго творчага натхнення супаў з кароткім перыядам «беларусізацыі» («карэнізацыі»). Менавіта ў 20-я гады мінулага стагоддзя ў апавяданні «Вечар» упершыню прагучала чорнаўскае афарыстычнае вызначэнне зямнога жыцця: «Чалавек — гэта цэлы свет».

Яго герой Віктар Зеніч, вярнуўшыся з працы вечарам, калі «было жаданне непрыкметна душой увайсці ва ўсе таямніцы, што ў жывых істотах захаваны, увайсці ласкава і ціха, з чыстымі думкамі і адчуваннямі, і ў гэтым была б радасць», жыве не толькі эмоцыямі, але і развагамі. Ён блізкі Чорнаму як назіральнік штодзённага чалавечага існавання, бытаапісальнік і псіхолаг, прыхільнік еўрапейскай «філасофіі жыцця»: «Плыў з шырыні вецер, радасны і лёгкі, і нёс вольнасць поля ў горад, а камяніцы, што недзе там, трохі далей, на гары, заціхалі на ноч, спынялі свае грымучыя гімны. А ў людзях рабілася звычайнае, вялікае і неабдымнае — людзі жылі, імкнуліся да радасці, баронячыся ад смутку...».

Перад намі ўдзельнік нацыянальнага руху «Маладой Беларусі», якая бурна ўступае ў шэрагі Чалавецтва. Менавіта ўвосень, у любімую паравіну Кузьмы Чорнага, калі «менш звінючай весялосці і больш ціхай радасці», у душы Віктара Зеніча пачынаецца «вялікая работа істоты»: «У напружанай цішы раптам пачала расці вастрата пачуццяў і думак»; «Многа бачылася свету, а колькі яшчэ бачыцца будзе. Можа, зямлі і мала за жыццё было пройдзена, ды многа было пройдзена чалавечых душ. А чалавек — гэта ж свет, адна істота — неабхватны прастор, і разглядай яго, калі ўмееш».

*Кузьма Чорны адзначаў: «...Нацыянальнае жыццё беларуса стала фактам усясветнага значэння. Беларускі народ заняў сваё выдатнае месца на гістарычнай арэне народаў усяго свету».*

Віктару Зенічу, прадстаўніку другога пакалення беларусаў, якое «радзілася пасля рэвалюцыі», душа якога «не разарвана на часткі гістарычнымі парогамі» (маюцца на ўвазе «войны і рэвалюцыі»), тым не менш шмат гаворыць «старыя сцены» пра «чалавека аб ім самім — так многа яны бачылі таямніц людскога жыцця». У гэтым выпадку, разважае Віктар, «пачуўшы аб сабе праўду, чалавек, можа, хутчэй адкінуў бы ад сябе ўсё паскудства, што ўрасло ў яго з самых цёмных далей вякоў і, будучы часам малым, псуе вялікае хараство чалавека».



Прыкладаў такой «праўды» ён бачыць шмат. Дурныя жарты суседа з жонкі, якую ён даводзіць да плачу; дзяўчына за сцяной, перад якой жыццё «цёмнай пустатой ляжыць»; хлапчына Юзікаў Юзік, што «ужо пачаў праходзіць з вялікае ахвоты, употай ад бацькі, жыццёвую школу»; «ішлі камсамольцы з нязжытай вясёласцю жыццядольнасці», на плошчы збіраліся вайсковыя музыканты і над імі ўзвышалася «высокая постаць капельмайстра»... Усё гэта, пачутае і ўбачанае, нечакана для Віктара Зеніча выклікае ўзнёслую рэакцыю: «І ўяўлялася зямля і людзі на ёй. І ўсё хацелася пайсці па зямлі, ахваціць яе сабою і сказаць кожнаму: вось я бачу, чую, адчуваю цябе. І пачынаю адчуваць у цябе тое, чаго ты і сам, можа, не адчуваў... І хацелася выявіць перад усім тым, што ёсць, што вось адчуваецца яно, гэтае жыццё, адно ўмірае, другое расце, а зямля, што трымае ўсё на сабе, імчыцца пад сонцам... І зусім ужо прайшоў ціхі настрой. Была ўжо вясёласць ад можа і несвядомага пачуцця, што вось ты сярод людзей, а вакол цябе імчыцца жыццё. Што многа будзе чаго бачыцца і чуцца на зямлі, многа будзе дзён пражыта і гэтакіх вечароў, многа будзе зроблена нечага вялікага, што заўсёды, да канца жыцця, стаіць перад табою, і ніколі не зробіцца так, каб быў яму абсалютны канец... Б'ецца з пустаты глыбіня, з-пад смутку — радасць. Жыццё ты маё шырокае без краёў, глыбіня мая бяздонная!..»

> *«Многа бачылася свету, а колькі яшчэ бачыцца будзе. Можа, зямлі і мала за жыццё было пройдзена, ды многа было пройдзена чалавечых душ. А чалавек — гэта ж свет, адна істота — неабхватны прастор, і разглядай яго, калі ўмееш».*
>
> *«І ўяўлялася зямля і людзі на ёй. І ўсё хацелася пайсці па зямлі, ахваціць яе сабою і сказаць кожнаму: вось я бачу, чую, адчуваю цябе. [...] І зусім ужо прайшоў ціхі настрой. Была ўжо вясёласць ад можа і несвядомага пачуцця, што вось ты сярод людзей, а вакол цябе імчыцца жыццё. Што многа будзе чаго бачыцца і чуцца на зямлі, многа будзе дзён пражыта і гэтакіх вечароў, многа будзе зроблена нечага вялікага, што заўсёды, да канца жыцця, стаіць перад табою, і ніколі не зробіцца так, каб быў яму абсалютны канец... Б'ецца з пустаты глыбіня, з-пад смутку — радасць. Жыццё ты маё шырокае без краёў, глыбіня мая бяздонная!..»*
>
> «Вечар», Кузьма Чорны

### «ТЫ ВЕЧНА ІДЗІ»

У раманах К. Чорнага «Зямля» і «Сястра», напісаных ужо ў атмасферы літаратурнай суполкі «Узвышша», гучыць пафас, які празаік выказаў у словах: «Замілаванне да роднай зямлі, да прыроды, хараство народных звычаяў і вобразаў, хараство беларускіх простых людзей».

На зломе 1920 — 30-х гадоў, калі ўсе літаратурныя суполкі былі ліквідаваныя і некалькі дзясяткаў беларускіх літаратараў па волі злога лёсу апынуліся за межамі Беларусі, К. Чорны, які адчуваў пульс жыцця, нечакана для многіх абарваў сваю задуму, якую пачаў быў увасабляць у рамане «Ідзі, ідзі» і планаваў прадоўжыць у раманах «Раскрыжаванне» і «Захаду і Усходу». Дарэчы, тлумачэнне назвы «вузка-вытворчага» рамана «Ідзі, ідзі», дадзенае Алесем Адамовічам (што гэтымі словамі аўтар як бы «падштурхоўваў» сваіх герояў, якія апынуліся ў часы «прымусова-свядомай» калектывізацыі на раздарожжы), выклікае роздум пра філасофскі сэнс назвы чорнаўскага твора, у якім закладзены заклік аўтара: «Ты вечна ідзі, бо калі спынішся, пойдзеш назад і назад». Па сутнасці, такі ж сэнс можна прачытаць і ў евангельскай назве кінасцэнарыя А. Адамовіча «Ідзі і глядзі».

І менавіта ў гэты час, названы К. Чорным «Раскрыжаванне», узнікла творчая задума напісаць цыкл раманаў «ад часоў прыгонніцтва да нашых дзён», у якіх у аснове «ідэёвыя катэгорыі»: бацькаўшчына, уласнасць, закон, сваяцтва і г. д. Гэта раманы «Бацькаўшчына», «Трыццаць год», «Трэцяе пакаленне», аповесці «Люба Лук'янская», «Насцечка».

### СЯРОД ЕЎРАПЕЙСКІХ СУСЕДЗЯЎ

У гады Вялікай Айчыннай вайны К. Чорны адным з першых савецкіх пісьменнікаў зразумеў, што вайна з фашызмам з'яўляецца адказным, пераломным, крызісным момантам не толькі ў гісторыі беларусаў, рускіх, украінцаў, але і ў гісторыі чалавецтва. Праблематычным стала само фізічнае існаванне асобных народаў. Вайна прывяла ў стан высокага напружання ўвесь сацыяльна-эканамічны механізм грамадства, стала жорсткай праверкай нацыянальных каштоўнасцей. Вострая і складаная форма сацыяльнага змагання агаляе ўсе пачуцці чалавека, раскрывае яго духоўную сутнасць.

Менавіта таму ў апавяданнях і раманах «Пошукі будучыні», «Вялікі дзень», «Млечны Шлях» К. Чорнага, як і ў апавяданнях М. Лынькова, чалавек выпісаны ў памежных сітуацыях. Тое, што К. Чорны пісаў пра ваенныя творы М. Лынькова, можна сказаць і пра творы самога К. Чорнага: «усе чалавечыя персанажы вырысаваны ў моманты найбольшага абвострання пачуццяў і думак, тады, калі ад чалавечых помыслаў адыходзіць тое, што ў звычайны час бывае як неабходнасць, а цяпер робіцца нецікавым, няважным, як дробнае непатрэбства. Бо прыйшла пара самага важнага, сапраўды цяпер адзінага, ад чаго залежыць усё іншае. Гэта — жалезная неабходнасць сцерці з твару зямлі лютага крывавага звера».

Якраз у гэты перыяд К. Чорны даў вызначэнне беларускага характару: «І ў цішыні буры, і ў бурах — цішыня...». Герой К. Чорнага — беларус, «ціхі чалавек» («Подзвіг ціхага чалавека» — так назваў пісьменнік свой публіцыстычны артыкул часоў вайны). Гістарычную і нацыянальную самасвядомасць гэтага чалавека абудзілі бурныя падзеі пачатку XX стагоддзя, а ў аснове рамана «Млечны Шлях» ляжыць чорнаўская задума: «Беларускі чалавек сярод сваіх еўрапейскіх суседзяў».

У «Дзённіку» і ў публіцыстыцы К. Чорны адзначаў: «...нацыянальнае жыццё беларуса стала фактам усясветнага значэння. Беларускі народ заняў сваё выдатнае месца на гістарычнай арэне народаў усяго свету»; «Назаўсёды знікла перад беларускім народам якая б там ні была небяспека быць выціснутым з вялікага гістарычнага жыцця і астацца зноў без гістарычнага прызнання»; «З'явіўся новы тып беларускага чалавека, чалавека — дзяржаўнага дзеяча, будаўніка сваёй нацыянальнай Беларускай дзяржавы»; «...жыве ў народзе свядомасць свае сілы і свайго гістарычнага права на выдатнае месца ў чалавецтве».

Радзіма — гэта з'ява духоўная. Яна не па-за чалавекам, а ў ім самім. «Паняцце радзімы, — адзначаў К. Чорны, — гэта не паняцце, адцятае ад чалавека. Радзіма — гэта і звыклы з маленства колер неба, і знаёмае дрэва, і вырыс пейзажу, і магілы продкаў, і дзяржаўны лад, і дачыненне да блізкіх і родных людзей, і кожнадзённая патрэба прачынацца раніцай і працаваць, і смак вады ў гарачыню, і каханне да любай жанчыны, і ціхія колеры неба на захадзе сонца. Гэта кожны па-свойму ўспрымае, але з гэтага складаецца ў кожнага жыццё, яго прывязанасці, яго асаблівасці, яго імкненні: гэта жыццё. Гэта радзіма».

Калі існаванню ўсяго гэтага, сярод чаго жыў і рос чалавек, што стала яго духоўнай патрэбай, пагражае вораг, кожны асобны чалавек адчувае сваю жывую сувязь з іншымі людзьмі, з вялікай радзімай і ўступае ў вялікае змаганне за адну «агульную справу».

**Міхась ТЫЧЫНА**

# І запаветны пераплёт

Даўно і плённа працуе ў жанры сатыры і гумару Барыс Кавалерчык, якому ў гэтыя дні споўнілася 80 гадоў.

Не ведаю, як хто, а я запомніў гэтае прозвішча з дзяцінства: бацькі выпісвалі «Вожык», і я, вядома, спярша гартаў часопіс, а потым пачаў і чытаць. Менавіта з яго старонак і прыйшоў да мяне Кавалерчык... Неўзабаве яму стала цесна на старонках нашага «Вожыка» і ён дабраўся да маскоўскіх часопісаў «Крокодил», «Наука и религия», «Вокруг смеха», да газет «Труд», «Аргументы и факты», «Литературная газета». Не кажучы ўжо пра нашы рэспубліканскія выданні, у якіх любілі і шанавалі гумар, што быў шырока прадстаўлены таксама ў калектыўных зборніках «Магістраль», «Жывое слова запішу...», у кнізе «Смех і вада патрэбны нам заўжды».

Аўтар сабраў свае «малюпасінкі» ў адну папку, далучыў да іх не адзін тузін гумарэсак, і атрымалася вясёлая паўчальная кніжка «Гульня думак», выдадзеная ў Гомелі на дзвюх мовах. Да гэтага часу я добра ведаў Барыса Лазаравіча, нашы шляхі часта сыходзіліся ў бібліятэках, у школьных і студэнцкіх аўдыторыях.

Барыс Кавалерчык часам скардзіўся, што нашы газеты і часопісы ўсё менш друкуюць гумарыстаў. Я раіў яму выдаць новую кнігу. Насуперак праціўнікам гумару і на радасць яго прыхільнікам Кавалерчык так і зрабіў. Сам ён прызнаўся, што «кожны пісьменнік марыць трапіць у пераплёт, але толькі ў кніжны».

Такім чынам з'явілася другая кніга Барыса Кавалерчыка — «Гульня слоў». Кніга, якую няварта прыбіраць з вачэй: сапсаваўся настрой — зазірні. Ёсць тут афарызмы, мініяцюры, гісторыі на любы выпадак і густ. Вось некаторыя з «думак уголас»:

*Каб выйсці ў людзі, іншы ходзіць на задніх лапках.*

*Сярод белых варон стрэленага вераб'я не ўбачыш.*

*Яблык разладу заўсёды горкі.*

*Калі нешта не па зубах, не варта кусаць локці.*

Да слова заўважыць, у 2013 годзе кніга «Гульня слоў» прызнаная лепшай у Беларусі сярод кніг сатыры і гумару, а яе аўтару на свяце беларускага пісьменства ў Быхаве быў уручаны «Залаты Купідон». Крыху пазней у гомельскім выдавецтве «Барк» пабачыла свет трэцяя кніга Барыса Кавалерчыка — «Аўцюкоўцы жартуюць».

У «Литературной газете» некалі была рубрыка «Пайшла пісаць губернія» (Клуб «12 крэслаў»). Яе вядучы, аналізуючы дасланыя творы, звярнуў увагу на Б. Кавалерчыка, назваўшы яго майстрам кароткай фразы. Пагартайце кніжкі Барыса Лазаравіча — і вы самі пераканаецеся ў гэтым.

**Васіль ТКАЧОЎ**



# 10 фактаў пра Петруся Броўку

**Сто дзесяць гадоў таму ў Пуцілкавічах нарадзіўся хлопчык Пятрусь, які праз многа-многа гадоў стаў народным паэтам. Яго вершы ведалі ўсе: многія творы паэта былі пакладзеныя на музыку, і самай вядомай песняй можна лічыць «Пахне чабор», якую неаднойчы пераспявалі і якую слухаюць па сёння.**
**Да юбілею паэта мы падрыхтавалі 10 фактаў з яго біяграфіі.**

## ЖЫЦЦЁ ПА РАСКЛАДЗЕ

Калі вы лічыце, што ў людзей творчых вольны распарадак дня, Пятрусь Броўка паўстане сур'ёзным выключэннем. Ён штодзень прачынаўся а пятай раніцы і ў любое надвор'е ішоў да Свіслачы на двухгадзінны шпацыр. Часам да яго далучаліся сябры (няцяжка здагадацца, што здаралася гэта рэдка). Па вяртанні дадому Пётр Усцінавіч пісаў вершы: то быў «залаты час», час адпачынку і творчасці. Пасля дзевяці гадзін для паэта пачыналася праца іншага кшталту: клопаты, звязаныя з Беларускай савецкай энцыклапедыяй, справы па Саюзе пісьменнікаў ды іншае. Такі строгі распарадак Пятрусь Броўка ніколі не парушаў, нават у адпачынку.



*Пятрусь Броўка і Кандрат Крапіва.*



*Пасля ранішняга шпацыру Пётр Усцінавіч быў заняты творчай працай.*

## МАЙСТАР НІКНЭЙМІНГУ

Да спецыялістаў па найменнях можна аднесці і Петруся Броўку: менавіта ён прыдумаў назву для славутага агітплаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Як прыгадваў Заір Азгур, будучыя аўтары выдання кіраваліся з Магілёва ў Гомель, дзе пачалася бурная дзейнасць па стварэнні газеты. У дарозе яны разважалі над назвай выдання, і варыянт П. Броўкі ўсім прыйшоўся даспадобы. Сённяшні «Вожык» (у якім Пятрусь Броўка таксама друкаваў свае сатырычныя творы) — прамы нашчадак агітплаката «Раздавім фашысцкую гадзіну».

## НОВЫ ГОД У ЦЯГНІКУ

Менавіта так сустракала 1943 год сям'я Броўкаў. Пётр Усцінавіч вёз жонку Алену Міхайлаўну і сына Юру ў Маскву (да таго яны знаходзіліся ў эвакуацыі ў Алма-Аце). Бацькі вельмі хацелі зладзіць для сямігадовага Юры свята; тут жа знайшлася «ёлка» — невялікае хатняе дрэўца, стала прапісанае ў цягніку. Упрыгожвалі «ёлку» ўсе: людзі прыносілі кавалачкі цукру, абаранкі ды іншыя каштоўныя на той час дробязі.

## НЯСПРАЎДЖАНЫ ПЕРАМОЖЦА

З 1922 па 1944 год у рэспублік СССР не было сваіх гімнаў — дакладней, гімн быў адзін на ўсіх. Урэшце ўлады вырашылі: час зменаў прыйшоў. Наступныя два гады вялася праца па стварэнні гімнаў асобных рэспублік, а конкурс на стварэнне гімна БССР прайшоў у Мінску 9 красавіка 1945 года. Перамаглі Пятрусь Броўка, Кандрат Крапіва (аўтары тэксту) і Анатоль Багатыроў (кампазітар). Аднак нацыянальным гімнам іх твор так і не стаў.

## РАМАНТЫЧНЫ ПАЛІТЫК?

Не менш славутая за «Пахне чабор» песня «Александрына», створаная Уладзімірам Мулявіным на верш Петруся Броўкі. Цікава, што пасля таго, як песню пачуў Пётр Машэраў, Уладзімір Мулявін стаў народным артыстам, а іншыя «песняры» — заслужанымі. Што так узрушыла кіраўніка рэспублікі?.. Існуе легенда, што некалі ў Пятра Машэрава была каханая па імені Александрына.



*Песня «Александрына», напісаная на словы Петруся Броўкі, прыйшлася даспадобы Пятру Машэраву.*

## І ЗНОЎ МУЗЫКА

Лібрэта да першай беларускай нацыянальнай оперы «Міхась Падгорны», пастаўленай у Вялікім тэатры оперы і балета ў 1939 годзе, напісаў Пятрусь Броўка.

## ГАЛАНТНЫ КАВАЛЕР

Такім можна лічыць Петруся Броўку. Сустракаючы сваю будучую жонку Алену пасля заняткаў, ён ужо меў у кішэні квіткі на ўсе кінасеансы ў Мінску. Дзяўчыне заставалася толькі абраць стужку і кінатэатр.

## У ПОШУКАХ БУДУЧЫНІ

Наступны факт шырокавядомы: Пятрусь Броўка быў галоўным рэдактарам першай беларускай энцыклапеды — другой ува ўсім СССР энцыклапеды, выдадзенай на нацыянальнай мове (першай была ўкраінская). 40 працэнтаў артыкулаў энцыклапедыі прысвечаныя Беларусі. Апошні, 12-ы том, — выключна БССР. Менш вядома наступнае: Пятрусь Броўка клапаціўся і пра матэрыяльны бок справы. Так, ён ездзіў па Мінску на таксі ў пошуках будынка, па якім можна было б спраектаваць рэдакцыю БелСЭ. У 1969 годзе пачалася праца над энцыклапедыяй, і ўжо ў наступным супрацоўнікі займелі сталую працоўную плошчу. Пасля таго, як работа над апошнім томам скончылася, рэдакцыю не расфарміравалі, а перателі ў выдавецтва, вядомае сёння як «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, і знаходзіцца яно ў тым самым будынку.

## НОВЫ ДОМ

Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў Доме творчасці ў Мар'інай Горцы размясціўся шпіталь, і пісьменнікі такім чынам засталіся ні з чым. У той жа час аднаго з беларускіх чыноўнікаў раскрытыкавалі за тое, што ён пачаў будаваць сабе лецішча. Пятрусь Броўка тады ўжо ўваходзіў у Вярхоўны Савет БССР. Ён даведаўся пра недабудаванае лецішча, знайшоў сродкі — і ў Каралішчавічах з'явіўся Дом творчасці, вядомы пад назвай «На ростанях»: тут Якуб Колас пісаў славуты раман.



*Васіль Гурскі, Пятрусь Броўка, Алесь Стаховіч і Максім Танк на адпачынку ў Каралішчавічах, 1952.*

## ДРУЖБІСТ

Так па-вушацку называў Петруся Броўку Рыгор Барадулін. Рыгор Іванавіч меў цёплыя стасункі з Пятром Усцінавічам і лічыў яго светлым чалавекам — нягледзячы на пэўную наменклатурнасць апошняга.

**Наста ГРЫШЧУК,**
**фота прадастаўленыя Літаратурным музеем Петруся Броўкі.**



*Міхась Лынькоў, Якуб Колас і Пятрусь Броўка, 1952.*

**Факт пра факты:**

Уся інфармацыя пра Петруся Броўку вядомая з чужых успамінаў: іншай аўтабіяграфіі, акром дзвюх старонак сухога афіцыйнага тэксту, паэт не пакінуў. На гэты конт у літаратурным музеі Петруся Броўкі захаваўся ўспамін Васіля Быкава: калі паэта прасілі напісаць падрабязныя ўспаміны, ён казаў «паспеецца» і «часам лішняе ведаць — бяда».

# «Кола» грукатала!

**Міжнародны фестываль «Купальскае кола-2015» сёлета змяніў прапіску і фармат. Месцам сустрэчы аматараў беларускай традыцыйнай культуры, музыкі, рамёстваў стаў музейны комплекс «Дудуткі», а сам фэст з канцэрту ў клубе вырас у цэлы шэраг цікавых імпрэз і інтэрактываў, аб'яднаных агульнай ідэяй святкавання Купалля. Навукова-практычная канферэнцыя, забавы, горад майстроў і грандыёзны двухдзённы канцэрт, падчас якога выступіла больш як тры дзясяткі гуртоў з Беларусі, Польшчы, Украіны, гэта яшчэ не ўсе прапановы ад арганізатараў гасцям фестывалю.**



*На сцэне «Купальскага кола» — гурт «Ветах» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.*

— Раней свята праходзіла ў клубным фармаце, асноўны яго акцэнт рабіўся на канцэрце, выступленнях музычных калектываў, — распавёў адзін з арганізатараў «Купальскага кола-2015» Аляксандр Рак. — Сёлета мы вырашылі адысці ад гэтай формы і зладзіць праграму, якая складаецца з розных блокаў, аб'яднаных агульнай ідэяй Купалля. Мы лічым, Купалле — сакральны сімвал беларускай культуры, нашай нацыі, з гэтым святам звязана мноства традыцый, у ім шмат містыкі.

Думаецца, такой задумкай шырокага святкавання Купалля якраз напярэдадні Сонцавароту — часу, калі і нашы далёкія продкі ў дахрысціянскія часы ўшаноўвалі Сонца і віталі росквіт сіл прыроды, арганізатары «Купальскага кола», як кажуць, трапілі «ў самы яблычак». Двухдзённы фэст, праведзены на вольным паветры, даў магчымасць гарадскому жыхару адчуць сябе часткай прыроды, паўдзельнічаць у купальскай містэрыі каля вогнішча на самым світанні (больш за тое, госці фэсту маглі застацца на ноч у адмыслова арганізаваным палатачным гарадку непадалёк ад асноўнай пляцоўкі святкавання).

Але давайце звернемся да блокаў, якія вылучаліся ў фестывальнай праграме.

## ДАСЛЕДЧЫКІ РАСПАВЯДАЮЦЬ

Паводле задумкі арганізатараў, своеасаблівай брамай фэсту, яго адкрыццём, мусіла стаць навукова-практычная канферэнцыя з удзелам вядомых даследчыкаў традыцыйнай культуры беларусаў. З аднаго боку, так яно і было: старшыня Студэнцкага этнаграфічнага таварыства Аляксей Глушко і этнакультуролаг Тодар Кашкурэвіч прачыталі лекцыі пра старажытныя вытокі Купалля. Але з іншага боку, імпрэза, па сутнасці, ператварылася ў нешматлікую па колькасці наведвальнікаў прэс-канферэнцыю. Магчыма, справа ў часе правядзення сустрэчы з даследчыкамі: яшчэ не ўсе госці паспелі завітаць на фэст. А можа, фармат публічнай лекцыі, загадзя заяўлены ў анонсе праграмы, прываблівў бы зацікаўленых беларусаў больш, чым абяцаная канферэнцыя?

Зрэшты, нельга сцвярджаць, што сустрэча са спадарамі Аляксеем і Тодарам зусім не мела карысці. Якраз наадварот: прысутныя даведаліся пра карані Купалля, а таксама варыянты інтэрпрэтацыі сімволікі гэтага свята ў сучасным свеце.

Рытуалы, што выконваліся падчас Купалля, суадносяцца з нябесным і зямным агнём (сонцам і колам, якое змяшчалася на вяршыню купальскага вогнішча) і вадой, якія ў міфах выступалі як брат і сястра ў саюзе (у іншым варыянце — у проці-дзеянні). У гэты дзень дзяўчаты збіралі зёлкі: лічылася, што менавіта на Купалле яны набываюць асаблівую моц. Увечары плялі вянкі, рыхтавалі рытуальнае вогнішча, пры якім гатавалі вячэру — яечню, верашчаку. Існавала меркаванне, што купальская ноч — надзвычай небяспечны час, калі асаблівую актыўнасць праяўляе нячыстая сіла. У самую кароткую ноч вядзьмаркі імкнуліся нашкодзіць чалавеку і жывёлам, а з таго свету ў свет людзей у перыяд з поўначы да світання маглі пераходзіць нячысцікі і злыя духі. Гэты час атаясамліваецца з найбольшым росквітам сіл прыроды і плоднасці чалавека. Лічылася, што купальскі агонь ачышчае, дае сілу, а вышыня скокаў праз яго сведчыць пра добры ўраджай. У купальскую ноч стваралася шмат пар, бо падчас святкавання многія сацыяльныя нормы зносінаў паміж мужчынам і жанчынай сціраліся!

Аляксей Глушко распавёў, што Купалле магло святкавацца не толькі адзін дзень і адну ноч. Гэта цэлы перыяд, калі доўжыцца Сонцаварот. Так, да нашага часу ў латвійскім рэгіёне Латгалія, памежным з Беларуссю, захаваўся звычай святкаваць Купалле (ці па-мясцоваму Ліго) цягам некалькіх дзён. Месцам правядзення свята становяцца хутары, на якія гаспадары па чарзе запрашаюць моладзь з усіх ваколіц.

Па меркаванні Тодара Кашкурэвіча, традыцыйныя беларусы ў старажытнасці не пакланяліся багам, сілам прыроды (як гэта заведзена ў хрысціянстве і іншых рэлігіях), яны знаходзілі спосабы кантактаваць з гэтым невядомым, але вельмі моцным светам. Карэннымі ўяўленні беларусаў пра свет — гэта іх метафарычнае ўспрыманне рэчаіснасці, бо нашы продкі стараліся апісаць сілы, якіх баяліся, засцерагаліся, нейкім чынам іх для сябе патлумачыць і ўкласці ў агульную сістэму ведаў. Таму вельмі важны стылістычны аспект маюць святы, песні, рытуальныя дзеянні і касцюм, які таксама нясе сакральныя, рытуальны сэнс. Даследчык лічыць: рэлігія нашых продкаў — гэта не проста сістэма святаў, якія бачацца ў комплексе з будзённасцю, але штодзённая праца, пэўныя сімвалічныя дзеянні, якія мусяць выконвацца штодзень цягам усяго года.

## ТАНЦЫ І МАЙСТАР-КЛАСЫ

Можна лічыць, што госці «Купальскага кола» былі падрыхтаваныя да свята і выканалі хоць нейкі мінімум рытуальных дзеянняў, неабходных для ўдзелу ў Купаллі. Так, на адмыслова арганізаваных пляцоўках яны навучыліся плесці вяночкі падчас майстар-класаў, засвоілі мастацтва беларускага народнага танца (гаворка ідзе пра больш складаныя танцы, чым традыцыйныя купальскія карагоды, якія ўсе і так умеюць вадзіць), пакаштавалі традыцыйныя беларускія стравы: каўбаскі, бліны, сыр, маглі выпіць медавухі. Далучэнне да традыцыйнай культуры беларусаў прайшло і праз знаёмства з рамёствамі ў кузні і ганчарні, а таксама агляд экспазіцыі гаспадарчых прылад і нацыянальных касцюмаў у этнаграфічнай галерэі «Дудутак».

Апроч гэтага, на памяць пра фэст госці маглі атрымаць фота ў рыцарскім даспеху ці проста захаваць на здымку нейкі момант свята (цягам двух дзён на асноўнай фестывальнай пляцоўцы працавала фотакропка, дзе адразу ж можна было атрымаць здымак ужо раздрукаваным на паперы).

## А ЦЯПЕР — КАНЦЭРТ

Натуральна, асноўнай часткай праграмы «Купальскага кола-2015» стаў вялікі канцэрт з удзелам больш як 30 гуртоў з розных краін. На галоўнай сцэне фэсту выступілі калектывы, чыя творчасць у розных аспектах звязаная з фальклорам: фолк-металісты Gods Tower з Гомеля, пурысты «Ветах» з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, фолк-панкі «Кашталы Box», якія вярнуліся на сцэну ў амаль цалкам абноўленым складзе, эксперыментальны праект «Ягорава Гара» (спалучае аўтэнтычнае гучанне з электроннымі аранжыроўкамі), этна-авангард гурт Essa (прадстаўляе фальклор ва ўмовах індустрыяльнага мегаполіса), калектыў Omut (стварае моцныя метал-кампазіцыі на аснове палескага фальклору)… Былі тут і блэк-метал гурты, і прыхільнікі сярэднявечнага гучання, і «класічныя» металісты. Адметна, што ў вялікім канцэрце прынялі ўдзел айчынныя каманды не толькі з Мінска, але і з Брэста, Гомеля, Гродна, Віцебска — гэта пашырыла геаграфію выступоўцаў і прывабіла на фэст многіх гасцей з розных гарадоў краіны.

Сёлетняе «Купальскае кола» ўжо паспелі назваць «фэстам вяртання», бо тут выступілі гурты, што вярнуліся да канцэртнай дзейнасці пасля некалькіх гадоў перапынку. Гэта «Кашлаты Box», які запалілў публіку энергічным панкам з дудой, паказаў новае моцнае і шчыльнае гучанне; гурт Sontsavarot, які зноў адрадзіўся пасля досыць доўгага маўчання. Як заўсёды, надзвычай спадабаліся беларускай публіцы ўкраінцы FRAM, а палякі Vader (якія выступалі ўжо глыбокай ноччу) сваім магутным гукам і энергетычным запалам не дазволілі заснуць нават насельнікам палатачнага гарадка.

## … І ПАДСУМАВАННЕ

Як заўсёды, праз некалькі дзён пасля завяршэння фэсту прынята сумаваць па тым, што ён ужо скончыўся, а пазней — падводзіць вынікі, выказваць падзякі, рабіць заўвагі, прапановы і пажаданні на наступныя гады. Думаецца, ніхто не будзе спрачацца, што сёлета арганізатары «Купальскага кола» папрацавалі на славу. Добра было арганізавана харчаванне гасцей, аўтобусная дастаўка з Мінска і суседняй чыгуначнай станцыі Рудзенск. Фестывальная праграма парадавала насычанасцю і разнастайнасцю. Можна было засяродзіць увагу не толькі на канцэрце (на якім, дарэчы, былі якасна і хутка адладжваўся гук для кожнага з гуртоў, а змены ў праграме выступленняў былі зусім нязначнымі і заставаліся амаль незаўважнымі для публікі), але і паглыбіць свае веды ў галіне традыцыйнай культуры беларусаў, наведаць саму экспазіцыю музейнага комплексу «Дудуткі», набыць сувеніры, у тым ліку з сімволікай фестывалю. Некаторыя замежныя музыканты-ўдзельнікі фэсту ў сваіх водгуках на старонках у сацыяльных сетках адзначылі, што сёлета ў Беларусі наведалі еўрапейскі фестываль. І гэта сапраўды так!

Упэўнена: многім гасцям надоўга запомніцца добразычлівая атмасфера фэсту і палатачнага гарадка (хоць яго арганізацыю можна ўдасканаліць). Але, як ужо адзначалася, крыху незаўважанай засталася канферэнцыя з удзелам даследчыкаў этнічнай культуры беларусаў. Магчыма, сустрэчы з навукоўцамі варта праводзіць у фармаце публічных лекцый больш папулярнага зместу з больш шырокай тэматыкай ці ператварыць майстар-класы па танцах і пляценні вяночкаў у комплекснае знаёмства са святам Купалле.

Але, думаецца, у наступным годзе ўсё пройдзе бездакорна. Таму — да сустрэчы на «Купальскім коле-2016»!



**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

*Паралелі*

# Выдавец як рэжысёр

**Падрыхтоўка падручнікаў для школ — своеасаблівая сфера кнігавыдання. Тут выдаўцу важна не толькі быць добра абазнаным у агульных тэндэнцыях галіны, быць выдатным маркетолагам, менеджарам, але і мець досвед працы ў навучальнай установе, сачыць за новымі тэндэнцыямі, методыкамі і тэхналогіямі навучання, выконваць патрабаванні Міністэрства адукацыі краіны. Напэўна, таму падрыхтоўка якасных падручнікаў — праца цэлай каманды спецыялістаў у розных сферах, а рэалізацыя ідэі новага выдання ў гэтай галіне можа заняць не адзін год.**



*Хольгер Бем.*

Пра тое, як працуюць выдавецтвы вучэбнай літаратуры ў Германіі, калегам з Беларусі падчас тэматычнага семінара распавёў спадар Хольгер Бем, заснавальнік кансалтынгавай фірмы IPRBerlin Consult, якая кансультуе выдавецтвы ў розных краінах свету. Спадар Хольгер мае шматгадовы вопыт працы ў вядучых выдавецтвах краіны, у тым ліку знакамітым Cornelsen Verlag. Шаноўны рэферэнт пагадзіўся адказаць і на пытанні карэспандэнта «Кніжнага свету».

**— Спадар Хольгер, вы маеце педагагічную адукацыю. Ці важна выдаўцу, які працуе ў галіне вучэбнай літаратуры, быць па адукацыі настаўнікам?**

— Нямецкія выдаўцы часта імкнуцца, каб у камандзе, якая рыхтуе падручнікі і працуе над іх маркетынгавай кампаніяй, настаўнікі былі. Яны мяркуюць, што менавіта настаўнікі лепш за ўсіх ведаюць, як распрацоўваюцца падручнікі, як пераканаць самых выкладчыкаў школ набываць гэтыя кнігі. Яны калегі, а паміж калегамі разуменне заўсёды лепшае, чым паміж людзьмі, якія не маюць вопыту працы ў сферы адукацыі.

*«У выпадку з падрыхоўкай падручнікаў выдавец ператвараецца ў рэжысёра. Ён, як пастаноўшчык канцэрта, павінен знайсці найбольш аптымальны шляхі спалучэння самых лепшых напрацовак аўтараў (каб падручнік быў сапраўды добры) з працай дызайнераў (каб кніга выглядала адпаведна патрабаванням мэтавай аўдыторыі). Ён мусіць умець спалучаць працу ўсіх груп спецыялістаў у адной камандзе выдавецтва.*

Выдавец вучэбнай літаратуры павінен мець шмат уменняў, важных для атрымання поспеху. Натуральна, у ліку іншага ён мусіць валодаць методыкай выкладання прадметаў ці хаця б разумець спецыфіку працы кожнага настаўніка-прадметніка. Больш за тое, у выпадку з падрыхоўкай падручнікаў выдавец ператвараецца ў рэжысёра. Ён, як пастаноўшчык канцэрта, павінен знайсці найбольш аптымальны шляхі спалучэння самых лепшых напрацовак аўтараў (каб падручнік быў сапраўды добры) з працай дызайнераў (каб кніга выглядала адпаведна патрабаванням мэтавай аўдыторыі). Ён мусіць умець спалучаць працу ўсіх груп спецыялістаў у адной камандзе выдавецтва. Падручнік — гэта не праект аднаго аўтара, але вынік працы каманды.

**— Ці праходзяць падручнікі перад публікацыяй своеасаблівае тэсціраванне падчас урокаў у школе?**

— Так. Гэта адзін з самых істотных момантаў, які часткова абумоўлівае поспех. Калі распрацоўваем серыю падручнікаў, то заўсёды выкарыстоўваем ужо гатовыя іх часткі як пілотныя праекты. У працэсе тэсціравання вучэбнага матэрыялу ўдзельнічае не толькі цэлы клас, але два, чатыры, часам шэсць настаўнікаў. Яны працуюць у розных рэгіёнах, з рознымі вучнямі. Кожны раз мы праводзім апытанне, якое дазваляе выявіць асноўныя рысы новага падручніка: што было добра ці кепска, выклікала цяжкасці… Збіраем усе меркаванні настаўнікаў і разам вырашаем, што для нас істотна і што патрэбна змяніць у новым праекце. Такое тэсціраванне падручніка — абавязковы этап распрацоўкі кожнага новага праекта.

**— Сферу выдання падручнікаў у Германіі можна ахарактарызаваць як кансерватыўную і строгую ці гнуткую, дзе можна праявіць крэатыўнасць?**

— Па сваёй сутнасці гэта кансерватыўная сфера — настаўнікі самі кансерватыўныя па спосабе мыслення. Часам яны пасля завяршэння навучання ва ўніверсітэце не хочуць прымаць нешта новае, выкарыстоўваючы толькі напрацоўкі, якім навучыліся дзесяцігоддзі таму. Яны не хочуць змяняць стыль вядзення ўрокаў. Вось чаму ў Германіі так павольна адбываецца пераход да працы з электроннымі падручнікамі і іншымі электроннымі сродкамі навучання. Настаўнікі перажываюць цяжкасці ў працы з камп'ютарамі. Але мы павінны прыняць гэта як належнае і навучыцца спраўляцца з такімі ўмовамі. З іншага боку, некаторыя прагрэсіўныя з'явы ўсё ж назіраюцца: у настаўніцкай супольнасці таксама існуюць групы, якія знаходзяцца ў авангардзе метадычных пошукаў. Мы на іх звяртаем пільную ўвагу, імкнёмся наладзіць дыялог, каб зразумець, у якім кірунку варта развіваць і нашы задумкі. Вось чаму патрэбна разумець і прымаць «кансерватыўную» частку настаўніцтва, але памятаць і пра развіццё.

**— Настаўнікі якіх прадметаў найбольш кансерватыўныя?**

— Перш за ўсё прыродазнаўчых дысцыплін, матэматыкі. А самыя прагрэсіўныя — выкладчыкі прадметаў, звязаных з рэлігіяй і гісторыяй. Натуральна, у нашым выдавецтве самыя крэатыўныя групы працуюць над падрыхтоўкай падручнікаў па замежных мовах. Ды і настаўнікі замежных моў больш адкрытыя для новых ідэй з-за мяжы, бо ім проста неабходна вывучаць, што адбываецца ў іншых краінах, распрацоўваць добрыя тэкставыя матэрыялы, ведаць пра новыя метадычныя знаходкі.

*«Цягам апошніх двух гадоў мы сталі звяртаць увагу на мноства скаргаў бацькоў, якія хочуць падтрымаць дзяцей, дапамагчы ім вучыцца, атрымліваць вышэйшыя адзнакі. Але як падтрымаць іх? Нам трэба было распрацаваць новы жанр, новы від дапаможніка — пэўнага кшталту дапаможнік-гід, дзе тлумачым бацькам тэму, як з ёй працаваць і дапамагаць дзецям вучыцца. Гэта як кампаньён, сябар, кніга, дзе тэма раскрываецца зусім іншай мовай.*

**— Вы распавядалі, што метадычныя комплексы па прадметах, якія вы рыхтуеце, сёння ўключаюць не толькі падручнікі і рабочыя сшыткі для вучняў, метадычныя распрацоўкі для настаўнікаў, але і адмысловыя кнігі для бацькоў. Як выглядаюць гэтыя дапаможнікі, з якімі бацькі мусяць працаваць менавіта дома?**

— Гэта вельмі добрае і цікавае пытанне. Такія кнігі — і для нас адрыццё, якое мы зрабілі цягам апошніх двух гадоў. Першапачаткова мы, як і іншыя выдавецтвы, распрацоўвалі толькі кнігі для школы. Потым падумалі пра тое, што варта было б зрабіць дапаможнікі, якія вучні могуць выкарыстоўваць дома, каб паўтарыць вывучанае на ўроках, выканаць больш заданняў, даведацца нешта новае. Гэта, так бы мовіць, «дзённы рынак», распрацаваны выдавецтвамі больш як дзесяць гадоў таму. Але цягам апошніх двух гадоў мы сталі звяртаць увагу на мноства скаргаў бацькоў, якія хочуць падтрымаць дзяцей, дапамагчы ім вучыцца, атрымліваць вышэйшыя адзнакі. Для гэтага і самім бацькам патрэбна лепш разумець тое, чаму іх дзеці вучацца на ўроках. Але як падтрымаць іх? Мы не можам даць ім кнігу для настаўнікаў — гэта складана, нельга працаваць і з падручнікамі, бо часам па некаторых прадметах дзеці ведаюць больш, чым бацькі, не знаёмыя з тэмай. Нам трэба было распрацаваць новы жанр, новы від дапаможніка — пэўнага кшталту дапаможнік-гід, дзе мы тлумачым бацькам тэму, як з ёй працаваць і дапамагаць дзецям вучыцца. Гэта як кампаньён, сябар, кніга, дзе тэма раскрываецца зусім іншай мовай.

**— Такія выданні маюць поспех?**

— Так. Мы заўважаем, што бацькі стараюцца знайсці ўсё больш падобнага матэрыялу. Гэта зусім новы сегмент рынку, які варта засвойваць.

**— Падчас семінара вы распавялі пра яшчэ адзін новы жанр падручніка — своеасаблівы гібрыд традыцыйнай друкаванай кнігі і электроннага выдання…**

— Сапраўды, мы ствараем праекты, што маюць назву «дадатковая рэальнасць» падручніка. Ён выглядае як звычайны вучэбны дапаможнік у класічным разуменні. Але, набываючы такую кнігу, вучань і настаўнік атрымліваюць магчымасць спампаваць з інтэрнэту спецыяльна распрацаваны дадатак для планшэта ці смартфона. Старонкі падручніка, праскананавыя камерай мабільнай прылады з дапамогай гэтага дадатку, нібыта ажываюць у віртуальнай прасторы. Замест звычайнага малюнка на экране з'яўляецца акенца з відэафайлам, а тэкст можа ператварыцца ў агучаны дыялог. З аднаго боку, такім чынам мы выконваем патрабаванне ўключэння лічбавай часткі ў вучэбныя матэрыялы, з іншага — зменшаем выдаткі на вытворчасць новых падручнікаў. Так, мы не ствараем цалкам новы праект, але дапрацоўваем ужо існуючы, правераны часам дапаможнік, ды і распрацоўка «дадатковай рэальнасці» не каштуе нам надта дорага: у якасці акцёраў і дыктараў аўдыя- і відэафайлаў выступаюць нашы супрацоўнікі і практыканты.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Лекі ад злых чараўніц

**Добра, калі аўтар дзіцячай прозы размаўляе з маленькімі на роўных, не надакучвае пропаведзямі, удала жартуе і ледзь прыкметна, але дзейсна вучыць сябраваць з навакольным светам. Кніга Алеся Бадака «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў», якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», — добры прыклад уважлівага стаўлення да чытачоў.**




Дарослыя бяруць на сябе шмат. Вырашаюць за дзяцей, што ім рабіць, забараняюць самае цікавае. Такую думку выказвае пісьменнік, звяртаючыся да хлопчыкаў і дзяўчынак, — і ў адно імгненне прыкоўвае іх увагу, бо становіцца, як кажуць, сваім чалавекам, сябрам.

Кніга ўключае дзве казачныя аповесці. Першая, «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў», захапляе не менш, чым прыгоды Алісы Льюіса Кэрала ці вандроўкі па сусвеце невывучаных урокаў Ліі Гераскінай.

Краіны, поўныя цудаў і незвычайных сустрэч, паўстаюць перад вачыма дзякуючы ўменню аўтара стварыць з дапамогай каларытных эпітэтаў і жывых дыялогаў «эфект прысутнасці», нібы гэта рэпартаж, а не мастацкая проза.

Небяспечныя і каварныя ведзьмы, яе вялікасць Белая Варона, цацачныя, але жывыя Пластмасавыя Чалавечкі, разумныя феі і чараўнікі, празрыстыя Сонечныя Зайчыкі — каго толькі не сустракаюць героі (а з імі і чытачы) на сваім шляху. Дарэчы, галоўнымі персанажамі выступаюць звычайныя падлеткі: смелая Карына, якая дзеля роднага брата гатовая на любыя жахі, і капрызны, занадта горды Граня.

Ніхто з іх не статычны. З развіццём сюжэту героі мяняюцца, становяцца лепшымі, мацнейшымі характарам, ваююць са сваімі слабасцямі і шчыра дапамагаюць іншым: то знаходзяць скрадзены чароўны посах, то выкрываюць хітрых канструктараў, то выратоўваюць кветкі ад засухі.

Аўтар не павучае чытачоў уадкрытую, але паказвае, чым можа скончыцца звычайнае свавольства, напрыклад, калі месца бабулі ў аўтобусе саступіць адмовішся.

Атмасфера аповесці мяняецца амаль ці не з кожнай яе часткай. Дэкарацыі цёмнага, заблытанага лесу, асабліва ў ноч на Івана Купалу, паглыбляюць у містычны, жудасны свет. Праз некалькі старонак усміхаешся: героі знаходзяць амаль пернікавы домік з жыхаром, што нагадвае гнома, — вушастым, з вялікімі вачыма і носам, падобным на бульбінку.

Вельмі ўдала распавядае аўтар пра краіну гультаёў, дзе ў развалены, перапоўненых смеццем, хатках жывуць брудныя істоты ў латаным-пералатаным адзенні і б'юць рэкорды па сне ва ўсім свеце. Запусценне для іх — асалода! А ў школах дзецям прапануюць адзін прадмет: гультайствазнаўства. Калі даць прачытаць хаця б гэтае месца ў кнізе двоечнікам, якія не могуць падняцца з канапы, упэўнена, ім стане сорамна… і смешна за саміх сябе! Што тут казаць пра паслухмяных дзяцей?

Другая аповесць «У цёмным лесе за сіняй рэчкай» накіравана на больш дарослую аўдыторыю і нагадвае сучасную інтэрпрэтацыю «Прыгажуні і пачвары» Шарля Перо. Вельмі ўдала перадаў пісьменнік барацьбу дзвюх супрацьлеглых сутнасцей, чалавека і ваўкалака, якія сутыкаюцца ў героі. Гэта не проста казка, а філасофская гісторыя пра вынікі скваплівасці, недахоп дабрыні і спачування, а потым — пра жаданне выправіць свае памылкі, так званае адкупленне.

Цікава, што не толькі галоўныя дзеючыя асобы, але і другасныя персанажы атрымаліся ў аповесці вельмі каларытнымі. Чаго толькі вартыя дзядулякнігалюб Афрыкан Далматавіч Падарожнік, распешчаны матуляй «пончык» Фоку ці інжынер, які прыдумаў водамабіль. Прыгажуня ў казцы атрымліваецца класічнай — са светлымі доўгімі валасамі, вялікімі блакітнымі вачыма і добрым сэрцам. Гэта, тым не менш, апраўдана, бо сюжэт патрабуе кантрасту — паміж «прынцэсай» і монстрам. Дарэчы, чалавечыя якасці апошняга выкрываюцца… праз яго любоў да кніг! Душа аказваецца выратаванай, а чытач атрымлівае сапраўдную асалоду ад добрага фіналу.

Казкі, сабраныя ў зборніку, дапамагаюць растлумачыць дзецям шмат незразумелага, зазірнуць за свой далягляд, пераглядзець паводзіны. Выхаваўчая функцыя гэтай кніжкі для маленькіх, нягледзячы на яе прыгодніцкі змест, амаль што самая галоўная.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Рэцэпты выхавання на кожны дзень




Калі адкрыць кнігу «Забавы дзетвары» Галіны Нічыпаровіч, якая выйшла ў «Выдавецкім доме «Звязда» ў серыі «Вясёлы калейдаскоп», адразу ж трапіцца вершык на любы выпадак з жыцця. Гэта як зборнік дзе твары парад ці, калі хочаце, рэцэптаў для выхавання маленькіх непаседаў. Дзяў-чынка плача, таму што ёй не купілі прыгожую цацку ці хлопчык хуліганіць і «абсыпае» дарослых крыўдамі? Варта пачытаць ім адзін з рыфмаваных твораў, якія ўвайшлі ў кнігу, і ўсмешка зайграе на тварыках, а сумленне ўпарта «пастукае ў дзверы». Душы, зразумела ж.

У Галіны Нічыпаровіч добра і лёгка падаюцца настаўніцкія прыёмы, ненадакучлівая, але дзейсна «засціснутыя» паміж радкоў. Яна шчыра дзеліцца сакрэтамі выхавання. У аўтаркі некалькі ўнучак, таму яна дакладна ведае, як «ваяваць» з дзіцячымі выбрыкамі.

Глядзіце самі, які добры настрой стварае верш, дзе, здавалася б, разгортваецца цэлая трагедыя: «Пакрыўдзілі Лізу — / Сядзіць ля акенца. /А сонейка з неба / Глядзіць і смяецца. / Мароз ёй малюе / На шыбе сняжынкі, / Каб вочкі прасохлі / Ад слёз у дзяўчынкі. / Праменьчык прысеў / І казыча ёй шчочкі, / Смяшынкі развёў / Па губах у куточкі».

Добра, калі з кнігай спачатку пазнаёміцца дарослы, бо тут ёсць і забаўляльныя вершыкі, і спевы-калыханкі. «Ах, стаміўся, / Апусціўся / На рамонак матылёк. / У цяньку, / Бы ў гамаку, / Адпачне ён незнарок» — пасля такіх вобразных радкоў гарантаваны прыемныя сны.

Можна з задавальненнем вучыцць па вершах са зборніка родную мову — рытміка ў іх простая, без складаных зваротаў ці пабудовы. Тым больш што вобразы вельмі знаёмыя і блізкія дзецям. Аўтар распавядае пра ўбачанае падчас вандровак па парку з матуляй, паездак у горад з бацькам ці дома, у сваім утульным пакоі. Пасля знаёмства з кнігай дзіця навучыцца кампанаваць спалучэнні, спраўляцца з эпітэтамі, выкарыстоўваць выразы ў дыялогах.

Аднак звернемся да тэматыкі зборніка. Шмат увагі ў вершах прыроднаму багаццю — без пафасу, але вельмі каларытна. Гартаючы старонкі, быццам бачыш праз словы, як стромкія ялінкі хавае пушысты снег, а сцяжынкі лясных жыхароў блытаюцца паміж дрэў, ствараючы крыжаванкі на белай пухнатай зямлі. Уяўляеш, як дзятва катаецца на санках і безтурботна гамоніць, а вецер-свавольнік парушае лясную цішыню. Чым не трэніроўка дзіцячай фантазіі?

Вабяць у зборніку жывёлы. Мітуслівы зайчык шукае выратаванне ад драпежнай лісы, з царскім выглядам сядзіць на галінцы чырвоны снегірок, кот палюе на птушак, а качаняты хаваюцца ў траву ад разгубленай матулі…

«Забавы дзетвары» Галіны Нічыпаровіч — гэта не правілы паслухмянства, а прыклад паводзінаў, якія выглядаюць сапраўды годна.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Увесь свет — пад адной вокладкай

Лепшыя настаўнікі, акрамя бацькоў, зразумела ж, кнігі. Гэта не навіна, але не кожнаму пісьменніку ўдаецца змясціць у адным невялікім выданні столькі вычарпальных, хоць і не энцыклапедычных, звестак. Анатоль Зэкаў у кнізе «Вожык вёз сараканожак» выдатна справіўся з гэтай задачай. Зборнік яго вершаў для дзяцей пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда» ў серыі «Вясёлы калейдаскоп».

Лірыка ў паэта атрымалася надзвычай плаўнай па рытме і пазнавальнай па змесце, але адначасова лёгкай і гульнёвай. Што і казаць: майстэрства спалучэння слоў — і ніякай магіі. Бачна, што аўтар перамясціўся ў часе на шмат гадоў назад, апынуўся на месцы сваіх маленькіх чытачоў, каб дакладна зразумець, што ім будзе цікава.

Вершы Анатоля Зэкава заклікаюць выхаваць не асобныя якасці, а асобу ў цэлым — з усім наборам патрэбных рыс характару і правільным стаўленнем да людзей і свету. Паэт адказвае на цэлы калейдаскоп пытанняў цікаўных першаадкрывальнікаў: як ходзіць дождж; чаму пень у лесе не варушыцца з месца, а зіма так шкодна сябе паводзіць; хто беліць і прыбірае луг; калі падступаюць маразы і навошта нехта хаваецца ў капелюшы ад спёкі.




Каштоўнасць сабраных у кнізе вершаў яшчэ і ў тым, што яны развіваюць у чытачоў правільнае вымаўленне, трэніруюць фанетычныя навыкі, з улікамі асаблівасцей беларускай мовы. Двайная карысць, асабліва пры вывучэнні цяжкіх гукаў, адчуваецца пры прачытванні дзецьмі скорагаворак (ці падобных на іх вершаў). Напрыклад: «Пад ракітай / У карчах / Рак з ракі / Сябрам крычаў…» ці «Шышка з шышкаю / Сварылася, / Шышка шышцы / Не скарылася».

Галоўныя героі ў кнізе — птушкі і звяры, але не такія, якіх мы бачым, напрыклад, па тэлебачанні ці ў лесе, а крыху казачныя, надзеленыя чалавечымі рысамі. Шэры трус завецца вусатым карапузам і шукае ў градах моркву. Важны індык ходзіць па двары і балбоча сабе пад нос толькі яму зразумелыя «мантры». Надакучлівыя камарыкі ў барыператвараюцца ў ледзь не акадэмічны аркестр, бо спяваюць і граюць не горш за прафесійных музыкаў. У замілаванні параўнаннямі і вобразамі — пачуцці любові і павагі да братоў нашых меншых. «Арэхамі частуе нас ляшчына. / Вісяць у кузаўках, бы ў промнях сонца. / Я не збяру ўсе іх, крыху пакіну / Вавёрачцы, маёй лясной сяброўцы. / Няхай збярэ за мной, каб у зімоўку/ Не ведала ў ядзе яна нястачы. / А я прыйду вясною да сяброўкі / І буду рады зноў яе пабачыць».

Сустракаюцца і зусім маленькія вершы, на чатыры радкі. Вельмі запамінальныя і пацешныя — пра Хвядоса з пыласосам ці мастака, якому не хапіла фарбаў. Рыфма ў такіх вершах нібы закручваецца ў кола, словазлучэнні паўтараюцца, таму іх лёгка вывучыць на памяць. Вось верш «Хто чым займаўся?»: «Марына чытала буквар. / Карабель майстраваў Макар. / А капрызуля Валерка / Капрызнічаў над талеркай».

Але ж не толькі прыродная тэматыка займае аўтара — з першых старонак ён накіроўвае чытачоў на патрыятызм, талерантнасць, ветлівасць, прычым дзіця амаль не заўважае, як вучыцца любіць родную зямлю, шанаваць продкаў, матчыну мову.

**Тамара ГУЛЕНКА**

# Вандроўнік. Доўгае вяртанне

**Не кожная рука здольная трымаць вандроўніцкі посах. Відаць, даецца ён лёсам толькі самым няўседлівым, апантаным, самой душой скіраваным да нязведанага. Дух вандроўніцтва і прываблівы, і надакучлівы, і небяспечны, і адначасова непераможны. У гэтым я пераконваюся менавіта на прыкладзе лёсу Язэпа Драздовіча.**

Доўга вярталася, ды ўсё ж пераканаўча і паўнапраўна вярнулася да нас імя таленавітага мастака, пісьменніка, настаўніка і краязнаўцы, які шмат сіл, а па сутнасці, і ўсё сваё жыццё аддаў беларускаму рэнесансу, які шчыра дбаў пра красу, росквіт і будучыню нашай Бацькаўшчыны. Ён вярнуўся да нас праз свае творы, дзённікі, успаміны сяброў і знаёмых, праз шчыраванні даследчыкаў ды і творы нашых сённяшніх паэтаў пра яго самога. Добрую справу зрабіла выдавецтва «Мастацкая літаратура», выдаўшы кнігу «Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак». Шчырае слова ўдзячнасці варта сказаць і яе ўкладальніку, рупліваму шчыроўцу на ніве роднай культуры Міхасю Казлоўскаму, чыімі намаганнямі і з'явіўся, і звярнуў на сябе ўвагу гэты важкі фаліянт.




Сам я калісьці адкрываў для сябе Язэпа Драздовіча па кнізе Арсеня Ліса «Вечны вандроўнік». Пэўна, ёсць нешта вандроўніцкае і ў маёй грэшнай душы, бо мне тут жа няўсцерп захацелася хоць геаграфічна паўтарыць зайздросны шлях мастака, тым больш што ён быў так яскрава акрэслены ў кнізе А. Ліса. Да адной задумы дадалася другая — напісаць паэму пра незвычайнага вандроўніка. А тут у хаўрусніцы Бог паслаў яшчэ аднаго ўлюбёнца дарог і вандраванняў, майго добрага знаёмага, нашага выдатнага пісьменніка Яраслава Пархуту, а ён, як здалося, і аблічам сваім вельмі нагадваў Драздовіча. Удваіх мы і выправіліся ў дарогу. Праўда, адолелі яе не ўсю, а толькі добры, ды, як мне здаецца, самы цікавы адрэзак. І яна, дарога, дапамагла мне ў ажыццяўленні задумы.

О, калі б тады была са мной гэтая цікавая кніга! Сёння старонкі яе ўважліва чытаю і перачытваю. Які ж цікавы і непаўторны лёс паўстае перада мною! Многія старонкі дзённікаў Я. Драздовіча я чытаў ужо раней, калі рыхтаваў іх да друку ў часопісе «Маладосць». Міжволі натыкаюся на такі запіс: «Пішу, пішу — а для каго ўсё гэта? Каму ўсё гэта цікава? Хто яго чытаць будзець?..» І хочацца закрычаць праз далячыні часу: «Будуць чытаць, Язэп Нарцызавіч! Будуць! І ўжо чытаюць. Гэта яшчэ як цікава!»

Толькі сёння спахапіўся: аднаго ж з герояў дзённіка я ведаў асабіста. Ды таго самага Звінячага (Машару). Недзе ў канцы шасцідзясятых адпачывалі мы разам у Каралішчавічах, добра пасябравалі з Міхасём Антонавічам. Тады разам з намі былі яшчэ Анатоль Вялюгін ды Рыгор Кобец. Яны ўтраіх згадвалі і далёкае і блізкае, а я, маладзейшы, толькі слухаў і запамінаў, што запаміналася. Не ведаў я тады, што ў вас са Звінячым ніколі не абыходзілася без сваркі, «...якраз як у таго даўней Янкі Купалы з паэтэсай Буйлянкай — як сыдземся, то і пасварымся». Калі б ведаў, дык запытаўся б, чаму такое адбывалася… Сёння, калі чытаеш яго дзённікі, ёсць адчуванне, нібыта сам ідзеш адразу двума шляхамі — касмічным і зямным. Ёсць адчуванне і самога часу, той эпохі, у якой жыў таленавіты мастак. Дужа свежа гучыць у творчасці Язэпа Драздовіча касмічная тэма. І сённяшнім фантастам далекавата да ягонага апісання далёкіх касмічных планаў, іншапланетнага жыцця. Мастак не толькі апісвае ўяўнае і прыснёнае жыццё словамі, але і малюе яго рэальнымі фарбамі. Мы з цікавасцю і захапленнем разглядаем малюнкі гарадоў на Марсе, Венеры, Сатурне, нібыта наяве знаёмімся з Месяцовымі жыхарамі «лунідамі». Як правіла, у касмічных малюнках Драздовіч вельмі зямны, а ў зямных, наадварот, — касмічны.

Вандроўны лёс Язэпа Драздовіча здзіўляе нас добрай верай у жыццё, сваёй адданасцю мастацтву, служачы якому ён і выправіўся аднойчы ў неспагадны свет, ведаючы наперад, што нічога лёгкага на тым шляху яго не чакае. Ён, хоць і асветлены зорамі загадкавасці, сам увесь цярністы і выбоісты.

Вельмі шчыры і адкрыты па натуры чалавек, таленавіты ад прыроды і няўдачнік па жыцці, Язэп Драздовіч дае нам прыклад вялікай любові да зямлі, да ўсяго роднага, што мае сваю далёкую і блізкую гісторыю. Пра сябе мастак піша так: «Я — зменная натура — праз кожныя тры гады што-небудзь новае пачну». Далей ён пералічвае ўсе тыя «тройкі» гадоў і згадвае, што ўжо трэці год як вандруе (запіс ад 1936 года). Магчыма, сам і спадзяецца, што вандраванні тыя неўзабаве скончацца. Аднак, як мы ведаем, працягваліся яны яшчэ ледзь не два дзесяцігоддзі, аж да самай смерці.

Творчаму чалавеку заўсёды мала часу. У Драздовіча часу, здаецца, хапала, але аддаваў яго на бедны кавалак хлеба, і яго вандроўнае жыццё нічым не адрознівалася ад жабрацкага. Вось што наконт гэтага пісаў ён у дзённіку: «Шчасліў той, хто маець часу на вольную творчую працу. Хто пры добрым здароўі і без клопату аб заўтрашнім дні. Хто не маець патрэб прадаваць свой час на грош дзеля хлеба». Тым не менш творчая спадчына самога Язэпа Драздовіча даволі багатая, нават калі меркаваць па гэтай кнізе. А яшчэ ж невядома, колькі і дзе ляжыць паўзабытым у самых розных куточках яго вандроўства. Будзем спадзявацца, што яно ў рэшце рэшт адшукаецца. Будзем і самі дапамагаць у гэтым пошуку.

**Казімір КАМЕЙША**

# Агінскаму прысвячаецца

Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Творчая спадчына Міхала Клеафаса Агінскага (да 250-годдзя з дня нараджэння)» прайшла ў Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук. У ёй прынялі ўдзел навукоўцы з Беларусі, Польшчы і Украіны.

Праца вялася ў двух тэматычных блоках: «Жыццё, дзейнасць, эпоха Міхала Клеафаса Агінскага ў гістарычнай перспектыве» і «Міхал Клеафас Агінскі ў мастацтве». Дыскусіі пацвердзілі: Агінскі — знакавая асоба нашай гісторыі і культуры. Наймацнейшы навуковы рэзананс выклікалі разнастайныя аспекты яго дыпламатычнай дзейнасці, меркаванні пра этнічныя праблемы рэгіёна, шырокія стасункі з палітыкамі і творцамі свайго часу і сувязі з паўстаннем пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Абмеркаваны таксама мінуўшчына і перспектывы сядзібы Агінскага ў Залессі, тэарэтычныя праблемы даследавання дыпламатычнай і эпісталярнай спадчыны і новаадкрытых гістарычных крыніц, што тычацца дзейнасці і эпохі.

У тэматычным блоку «Міхал Клеафас Агінскі ў мастацтве» дыскусія сканцэнтравалася на інтэрпрэтацыі самага вядомага твора — паланэза «Развітанне з Радзімай» у сучасным мастацтве. Была абмеркавана таксама спецыфіка літаратурнай, мастацкай і музычнай школы часоў Агінскага, праявы яе ў сучаснай культуры. Актыўнае абмеркаванне выклікала тэма вывучэння спадчыны Агінскага ў сярэдняй школе і вышэйшых навучальных установах у кантэксце развіцця гуманітарнай і мастацкай адукацыі Беларусі і суседніх краін. Па меркаваннях удзельнікаў канферэнцыі, паланэз Агінскага застаецца тытульным творам і дагэтуль выкарыстоўваецца не толькі ў музычным, але і экранным мастацтве ў якасці цытаты, метафары і лейтматыву.

Зацікавілі выступленні старшыні Польскага фонду Касцюшкі Марка Кшэсняка (Польшча); прафесара Акадэміі гуманітарных навук імя Аляксандра Гейштара ў Пултуску (Польшча), доктара мастацтвазнаўства Тамары Мдзівані, кандыдата мастацтвазнаўства Святлены Немагай.

У межах культурнай праграмы канферэнцыі адбылася прэзентацыя новых выданняў — кнігі доктара Марэка Кшэсняка «Вершы Марыі Канапніцкай аб Тадэвушу Касцюшку і паўстанні», мастацкіх матэрыялаў Тацяны Кляшчонак «Залескі сакратар Леанард Ходзька», «Каляндар-біяграфія Міхала Клеафаса Агінскага», «Так спяваюць «Паланэз Агінскага» ў Беларусі, Літве, Польшчы…», навукова-папулярнага выдання Леаніда Несцерчука «Міхал Клеафас Агінскі: ліцвін, патрыёт, творца», мультымедыйных выданняў Святлены Немагай.

Удзельнікі канферэнцыі чарговы раз пацвердзілі важнасць далейшага даследавання эпохі Міхаіла Клеафаса Агінскага, яго культурных і дыпламатычных стасункаў, творчасці асоб, прыналежных да кола "Паўночных Афін».

**Марына БЕЛАВОКАЯ**

# Найперш — пачуцці

Сучасную літаратуру Беларусі немагчыма ўявіць без жаночай паэзіі, твораў пра каханне. Жаночая літаратура, безумоўна, прыцягвае ўвагу. Мяне, напрыклад, зацікавілі творы Зінаіды Дудзюк — брэсцкай пісьменніцы, якая піша і для дзяцей, і для дарослых.

Гэта не толькі раманы пра каханне, паэзія, але і глыбокая гістарычная проза «Вялясіты» (2010), «Год 1812» (2004), дэтэктыўны раман «Гонка за ваўком», міфалагічныя творы — «Нямеранае багацце» (2012) і раман-рэканструкцыя славянскай міфалогіі «Кола Сварога», фантастычная аповесць «Аднарог» (2010). Таленавітая пісьменніца спрабуе сябе ў розных жанрах. Чытаюцца творы Зінаіды Іосіфаўны лёгка, у іх ёсць авантурызм, напружанасць сюжэта, гістарычныя рэаліі і, канечне, каханне.

Вельмі незвычайнымі мне падаліся апавяданні Зінаіды Дудзюк, дзе перакрыжоўваецца выдумка, містыка, міфалогія беларусаў і простыя чалавечыя адносіны. Аднак больш за ўсё захапіў раман «Слодыч і атрута» (2013) — дзіўная гісторыя пра каханне і нянавісць, жыццёвыя выпрабаванні і варункі лёсу, якія выпалі на долю героіні. Бабуля Зося пражыла доўгае жыццё (памерла ў 96 гадоў), а перад смерцю паспела расказаць унучцы пра свае жаночыя таямніцы і вялікае каханне, якое пранесла праз гады. Яе згадкі і леглі ў аснову рамана пра гісторыю заходнебеларускай сям'і, на долю якой выпалі шматлікія сацыяльныя катаклізмы: бежанства пасля пачатку Першай сусветнай вайны, рэвалюцыя і грамадзянская вайна, Другая сусветная вайна, польскі рэжым і савецкая ўлада, рэпрэсіі, нямецкая акупацыя.

Расповед вядзецца пра жыццё дзвюх сясцёр, кожнай з якіх наканаваны розны лёс. Старэйшая імкнецца да дабрабыту, лепшага жыцця, таму і едзе ў Амерыку, дзе людзі жывуць зусім інакш. Здаецца, стала багацейшай, чым на радзіме. Але ці знайшла шчасце? Памерла ў адзіноце, магчыма, была атручаная... Зусім іншы лёс наканаваны малодшай сястры Зосі, якая чакала шчасця, кахання, гатовая была жыць з дарагім чалавекам, нават калі ён больш заняты сабой, уласным жыццём, чым каханай жанчынай.

Выпрабаванні выпалі на долю Зосі, аднак моцнае каханне дапамагло перажыць усё, не скарыцца лёсу. Не пералічыць, праз што прайшла гераіня, але засталася моцнай і непахіснай. Пасля таго, як мужа арыштавалі за службу сельскім аграномам у час акупацыі, Зосі здавалася, што ніколі ўжо не будзе шчаслівай. Доўгія дзесяць гадоў чакала вяртання мужа з заключэння, разам з сынам апынулася ў Казахстане на пасяленні.




Падзеі, якія адбываліся ў Заходняй Беларусі пасля 1939 года, паказваюцца вачыма Гардзея, каханага Зосі. Ён разумее, што пры новай уладзе не стане лепш. Тое, на што спадзяваліся сяляне, чакаючы вызвалення ад польскага прыгнёту, не спраўдзілася. Гардзей да 1939 года пашыраў гаспадарку, хацеў лепшага жыцця сям'і, але адчуў, што неабходна пазбавіцца лішняга. Ён прапануе цесцю тэрмінова збыць жывёлу, каб не залічылі ў кулакі. Аднак гэта не выратавала бацьку Зосі, ён быў высланы як кулак і памёр у дарозе, нават не даехаўшы да месца.

Гардзей пачынае працаваць у горадзе памочнікам каморніка, але яго звальняюць з працы як палітычна ненадзейнага. Герой адчувае несправядлівасць, бо ў свой час сядзеў у польскай турме за падпольную дзейнасць. З прыходам немцаў у час вайны ён пачынае працаваць сельскім аграномам, верыць, што савецкая ўлада не вернецца. Пасля спрабуе збегчы ад расплаты...

Адзначу каштоўнасць рамана «Слодыч і атрута». Твор цікава чытаць, бо ў ім апісваецца жыццё простай сялянскай сям'і, а лёгкая мова, хуткае разгортванне падзей і захапляльны сюжэт не даюць стаміцца.

Тэма кахання праходзіць праз усю творчасць Зінаіды Дудзюк. Гэта каханне Радуні і Веляслава з рамана «Вялясіты», якім не было наканавана быць разам. Трагічны лёс напаткаў Марылю з рамана «Год 1812», якая пакахала рускага афіцэра Ляснеўскага. У 2013 — 2015 гадах пісьменніца актыўна друкуецца ў часопісе «Полымя», выходзяць яе новыя кнігі: раман «Гонды» (2013), аповесці «Закон захавання кахання» (2014) і «Ніка» (2015). З кожным новым творам пісьменніца глыбей адчувае жаночую душу, перажыванні сваіх гераінь.

**Таццяна ЦІХАН**



# Аліна БЕЗЕНСОН: «Гэта была мая тайна...»

У мінулым канцэртным сезоне ў Белдзяржфілармоніі з аншлагам прайшлі аўтарскія канцэрты кампазітара, сакратара праўлення Беларускага саюза кампазітараў, члена Беларускага саюза музычных дзеячаў Аліны Безенсон.

Зусім нядаўна я пачула па радыё, як Аліна Іванаўна прэзентавала слухачам толькі што выпушчаны дыск эстрадных песень «Белыя крылы кахання». Як спалучаюцца ў яе творчасці духоўныя гімны і эстрадныя песні? Як нараджаюцца чароўныя мелодыі? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае Аліна Безенсон.

**— Аліна Іванаўна, што паўплывала на выбар прафесіі? У сям'і былі музыкі?**

— Прафесійных не было, аднак амаль усе блізкія сваякі — гарачыя прыхільнікі музыкі. Бабуля і маці часта спявалі рэлігійныя песні. Старэйшыя сёстры таксама спявалі і падбіралі на фартэпіяна на слух папулярныя мелодыі. Старэйшаму брату былі падуладныя не толькі гэты інструмент, але і гітара, труба, ударныя. На гарышчы бацькоўскай хаты паступова «сфарміравалася» вакальна-інструментальная група, да якой часам удавалася далучыцца і мне. Я перажывала сапраўдныя імгненні шчасця, калі мне дазвалялі трошкі пабрынкаць — то на клавішных, то на ўдарных! Але больш за ўсё любіла зачыніцца ў пакоі сам-насам з піяніна і ствараць уласныя мелодыі. Гэта была мая тайна...

З гадамі любоў да музыкі мацнела. У 10 гадоў мяне прынялі ў музычную школу па класе домры (дадатковы інструмент — фартэпіяна). Я з вялізнай асалодай наведвала ўсе прадметы. Аднойчы ў навагоднюю ноч адкрыла фортку і выгукнула: «Я вельмі хачу стаць кампазітарам!». Вось такая палымяная заява. І мара спраўдзілася! Пасля Гродзенскага музычнага вучылішча паступіла ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, а затым у магістратуру па класе кампазіцыі і вучылася ў народнага артыста Беларусі, прафесара Андрэя Мдзівані. У 1996 годзе мяне прынялі ў Саюз кампазітараў.

Зараз без музыкі я не магу пражыць і дня. Гэта паветра, якім я дыхаю.

**— Хто выконвае вашы творы? Якім жанрам аддаяце перавагу?**

— Мне цікава ўсё, таму працую ў розных жанрах. Гэта канцэрты для саліруючых інструментаў з сімфанічным аркестрам, сімфанічныя і харавыя паэмы, араторыі, кантаты, імшы, вакальныя і харавыя цыклы, музычныя сцэны, духоўныя гімны і спевы, рамансы і песні, апрацоўкі беларускіх народных песень і грыгарыянскіх спеваў, камерна-інструментальныя творы. Выканаўцамі звычайна выступаюць салісты і калектывы Беларускай дзяржаўнай філармоніі, Вялікага тэатра, Белтэлерадыёкампаніі, вышэйшых і сярэдніх музычных установ, каледжаў, музычных школ мастацтваў і гімназій з музычна-эстэтычным ухілам. І, вядома ж, часта сама акампаную вакалістам і выканаўцам-інструменталістам.

**— Наколькі мне вядома, значнае месца ў вашай творчасці займае музыка для дзяцей. З чым гэта звязана?**

— Я працую ў дзіцячай музычна-мастацкай школе мастацтваў № 1. Адчуваю, што ў навучальным працэсе заўсёды патрабуецца новы рэпертуар. Да таго ж камерная музыка для дзяцей і юнацтва выконваецца значна часцей, чым буйныя творы для аркестра. Штогод праводзіцца шмат гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, на якіх гучыць айчынная музыка. Гэта вялікі стымул для нашых кампазітараў — ствараць новыя творы для дзяцей, а выдаўцам — друкаваць іх у зборніках.

**— Як увогуле да вас «прыходзяць» мелодыі?**

— Піфагор казаў, што музыка гучыць у космасе. Глінка сцвярджаў, што стварае музыку народ, а мастакі яе толькі ўзбагачаюць і апрацоўваюць. Месіян запісваў нотамі інтанацыі спеву птушак. Шматлікія аўтары падбіраюць на слых раней пачутую музыку, трошкі або істотна змяняючы яе. Некаторыя кампазітары ставяцца да складання музыкі як да матэматыкі: вылічваюць меладычныя і гарманічныя формулы, кульмінацыю і форму твора. Падарожжы, прыгожая прырода, наведванні канцэртаў, выставак, чытанне кніг, прагляды цікавых фільмаў і шмат што іншае — усё гэта натхняе на стварэнне музычных твораў. Але самае галоўнае ў творчасці — унутраная патрэба пісаць. Мабыць, гэта і ёсць прызначэнне, альбо Божая воля, што, па сутнасці, адно і тое ж.

**— Якія сярод сваіх твораў лічыце самымі значнымі?**

— Творы буйной формы, над кожным з якіх працую не адзін год. Гэта «Прасвятленне» — канцэрт для фартэпіяна з сімфанічным аркестрам, «Будучы дзень» — канцэрт для баяна з сімфанічным аркестрам, «Азарэнне» — канцэрт для домры з сімфанічным аркестрам, араторыя «Страцім-лебедзь» на словы Максіма Багдановіча для салістаў, хору і сімфанічнага аркестра, вакальныя цыклы і харавыя творы на вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама Наталлі Ільюшынай, Юрыя Сапажкова, Тацццяны Мушынскай, Аліны Легастаевай.

**— А як вы прыйшлі да духоўнай тэматыкі?**

— Мне пашанцавала: я нарадзілася ў сям'і шчырых вернікаў. Бабуля вышывала харугвы для касцёла. Маці, наведваючы святыя нядзельныя імшы, рэгулярна брала мяне з сабою, і я слухала рэлігійную музыку ў выкананні хору з арганам. Ужо ў гады вучобы ў кансерваторыі я напісала кантату «Хвала Табе, Божа!» на лацінскі тэкст. Цяпер мае кантаты, імшы і іншыя духоўныя творы выконваюцца на канцэртах і конкурсах не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. На стварэнне духоўнай музыкі часта натхняюць зносіны з глыбокаверуючымі людзьмі, чытанне літаратуры, духоўныя вершы з глыбокім сэнсам, якім я заўсёды аддаю перавагу.

**— У вас ёсць любімы твор?**

— Любімы — гэты твор у момант яго напісання. Пакуль мне самой не спадабаецца мелодыя, яе развіццё, гармоніі, форма, не магу супакоіцца. Потым пачынаю працу над наступным творам, і ўжо ён становіцца самым любімым. Па сканчэнні работы некаторыя творы рэдагую або перакладаю для іншых інструментаў. Я вельмі па-трапяткому стаўлюся да музыкі, таму доўга працую нават над дробнымі дэталямі.

**— Што датычыць песеннай творчасці...**

— Гэта пэўны перапынак паміж буйнымі творамі. Калі я працавала над канцэртам для баяна з аркестрам, паралельна напісала не меней як два дзясяткі песень і рамансаў. А наогул у сваім спісе я налічыла больш за 30 свецкіх песень і рамансаў, каля 40 духоўных гімнаў і спеваў, прыкладна 20 песень і столькі ж духоўных гімнаў і спеваў для дзіцячага (жаночага) хору. Агульны лік вакальных твораў, напісаных у так званай куплетнай форме, — больш за 110. Усе яны даступныя для самага шырокага кола слухачоў, бо выдадзена 6 зборнікаў песень і рамансаў на кампакт-дысках у выкананні вакалістаў пад фартэпіяна або фанаграму.

**— Якія тэксты кранаюць душу больш за ўсё?**

— Мяне натхняюць песенныя вершы з глыбокім сэнсам, шчырымі пачуццямі, яркімі мастацкімі выявамі, моцнымі эмоцыямі. Пішу таксама і вершы, якія ў вызначаны момант сугучныя майму настрою. У ліку аўтараў — Тацццяна Мушынская, Аліна Легастаева, Лізавета Палеес, Валянціна Паліканіна і многія іншыя.

**— Сям'я, праца, творчасць, грамадскія даручэнні — удаецца вырашыць праблему недахопу часу?**

— Думаю, пакуль яшчэ нікому не ўдалося яе вырашыць. Але гультаі і лайдакі марнуюць час, а дзейныя людзі выкарыстоўваюць для таго, каб зрабіць нешта важнае і карыснае. Грамадскія нагрузкі займаюць няшмат часу. На працы я праводжу ўсяго два дні на тыдзень. Але ў мяне столькі неўвасобленых творчых ідэй! Каб усе іх рэалізаваць, наўрад ці цэлага жыцця хопіць...

**— Вашы планы, задумкі, надзеі?**

— Акрамя новых твораў, у найбліжэйшы час хацела б падрыхтаваць да выдання раней напісаныя. На дадзены момант у мяне выпушчана 6 нотных зборнікаў вакальнай і 10 інструментальнай музыкі для домры, цымбалаў і фартэпіяна. Мару ўбачыць зборнік вакальных цыклаў, як мінімум, 10 зборнікаў харавой музыкі, а таксама некалькі партытур буйных сачыненняў. Спадзяюся, што ў будучых канцэртных сезонах адбудзецца некалькі канцэртаў-прэзентацый нотных зборнікаў і кампакт-дыскаў, куды я, вядома ж, запрашу кожнага, хто цікавіцца сучаснай акадэмічнай і эстраднай музыкай!

**Лізавета ДАВЫДАВА**

# Анёлы і гадзіннікі

Чатыры беларускія мастачкі на рытмічнай, поўнай метафар і асацыяцый мове станковай графікі распавядаюць пра бачанне свету. Выстаўка «Погляд» прадстаўлена ў мастацкай галерэі «Ласандр-арт». Аляксандра Асташонак, Тацццяна Грыневіч, Ганна Каралёва і Юлія Мацура прапануюць увазе гледачоў работы ў тэхніках афорту, акварэлі, тушы і акрылу. Сярод іх — пейзажы, прысвечаныя зімовай цішыні ці яркаму абуджэнню прыроды, творы, дзе «пасяліліся» добрыя казачныя істоты са знешнасцю анёлаў, жывёлы, апранутыя ў чалавечую вопратку. Сустракаюцца і філасофскія кампазіцыі на вечныя тэмы мацярынства, адносінаў паміж людзьмі.

Экспазіцыя здзівіць кожнага. Але ёсць адна ўмова: працы трэба «прачытваць» не логікай, а эмоцыямі. Звыклыя аб'екты ў руках аўтараў набываюць непазнавальныя формы, а рэчы, якія здаваліся абстрактнымі, наадварот, раптам становяцца надзвычай выразнымі.

На выстаўцы можна ўбачыць таксама ўнікальныя аб'екты ў стылі «тэхна-арт» са стымпанкаўскай атмасферай — гадзіннікі, створаныя мастаком-керамістам Ігарам Дзерванавым. Насценныя «гаспадары часу» нібыта ажываюць на вачах, а іх механічная сутнасць набывае натуральнае аблічча. Гадзіннікі раптам паўстаюць у выглядзе галавы чалавека, аўтамабіля, падводнай лодкі, цягніка. Гэта — праява цікавасці аўтара да тэхнічнага прагрэсу.



Варта дадаць, што творчасць Аляксандры Асташонак, Тацццяны Грыневіч, Ганны Каралёвай і Юліі Мацур аб'яднана тэхнічным выкананнем, але розніцца энергетычна. Усе мастачкі — актыўныя ўдзельніцы выставак у Беларусі і за мяжой. Іх працы можна знайсці не толькі ў музеях, галерэях нашай краіны, але і ў прыватных калекцыях Германіі, Італіі, Кітая, Францыі, ЗША, Расіі ды іншых дзяржаў. Што да экспазіцыі «Погляд», то яна будзе даступная для гледачоў да 31 ліпеня.

**Марыя ВОЙЦІК**



# Любоўую напісаныя радкі



**Талент праяўляецца незалежна ад асобы заўжды і паўсюль. Кожны раз, калі чытаю новыя вершы Лейлы Аліевай, бачу, як раскрываюцца яе паэтычныя здольнасці. Зрэшты, мяркую, што такія якасці, як творчасць, мужнасць, смеласць і г. д., прапарцыянальна падзеленыя сярод людзей. І прачынаюцца ў чалавеку неспадзявана. Але ў вершах Лейлы Аліевай усе найлепшыя чалавечыя якасці можна адчуць адначасова. Яе творы літаральна набрынялыя дабрынёй, каханнем, пяшчотай. Любоўую напісаныя радкі нясуць новую хвалю ідэй у паэзію сучаснага Азербайджана. У іх няма штучнасці, песімізму, кожны радок дорыць надзею, саграве закаханыя сэрцы. Веліч паэтэсы, адметнасць — менавіта ў тым, што чытач яе вершаў знаходзіць у іх душэўную падтрымку, веру і надзею. У літаратуры Азербайджана рамантызм іграў значную ролю ажно да пачатку XX стагоддзя. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на яго месца прыйшоў рэалізм. Як літаратуразнаўца з сям'і паэта магу з упэўненасцю сцвярджаць, што вершы Лейлы Аліевай прынеслі ў нашу літаратуру новую плынь, новае светаадчуванне. У часы сацрэалізму нельга было выходзіць за пэўныя межы. Сённяшнім вершам Лейлы Аліевай невядомыя абмежаванні — яны нясуць глыбінныя пачуцці ўсім аматарам літаратуры. А дзякуючы цудоўным перакладам Таццяны Сівец асалоду ад іх можа атрымаць і беларускі чытач.**

**Ісфандзіяр Бахціяр аглы ВАГАБЗАДЭ,**
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, доктар філалагічных навук, прафесар**

**Лейла АЛІЕВА**

***

*Зноў — цягнікі-дарогі,*
*Зноў — мы адны ў жыцці.*
*Сэрцаў на свеце многа,*
*Роднага — не знайсці.*

*Дзе ж мой цягнік, ці блізка?*
*Людзі — як мурашы.*
*Быў бы час памаліцца,*
*Будзе час — саграшыць.*

*Скрозь тунэлі адчаю —*
*Да летуценняў-сноў.*
*Хтосьці сышоў да часу,*
*Хтосьці сядзіць са мной.*

*Гэты цягнік не зменіць*
*Выбраны ім маршрут.*
*Душы вязе, як цені,*
*Кожнай — асобны кут.*

*Кожная — у спадзеве,*
*Кожная — у тузе.*
*Кожная плача: «Дзе мы?..*
*Дзе?...»*

*Чуеш, цягнік, спыніся,*
*Выслухай, чым жывём.*
*Дзе твае машыністы,*
*Хто цябе гоніць век?*

*Станцыя. Шлях закончаны.*
*Іншых цягнік імчыць,*
*Быццам жыццё, і хочацца —*
*Проста жыць.*

## Цябе пакінуць не магу

*Цябе пакінуць не магу*
*І не магу цябе не кінуць.*
*Ты пасміхнешся на бягу —*
*Я прашапчу: "Мая правіна..."*

*Так, мы гулялі. Ды гульня*
*Нам сталася журбой і болем.*
*І як цяперака прыняць,*
*Што праігралі мы — абое?*

*Мы не маглі перамагчы.*
*Мы ж не ў кіно з табою, любы.*
*Як бач, абое мы — ні з чым.*
*Абое смак спазналі згубны.*

*А калісь ты глядзеў інакш,*
*А калісь не адводзіў вочы…*
*Цяпер — адзін, цяпер — адна,*
*Даруй, мой летуценны хлопчык.*

*Ды што цяпер чакаць вясны,*
*Калі за шыбай свет скалелы.*
*Я помню словы ўсе і сны.*
*Я ў снах расстайных пасталела.*

*Хачу табе сказаць: «Даруй!»*
*Але нічога ўжо не вернеш.*
*Ты не сціскай самотных рук,*
*Нам, пэўна, не хапіла веры?*

*Хачу сказаць табе: «Не плач!»*
*Ды слёзы ты свае хаваеш.*
*Забыцца не прашу, прабач,*
*Бо ты не з тых, хто забывае.*

*Ты ўслед мне моўчкі не глядзі,*
*Я позірк адчуваю спінай.*
*Сярод агульных тых гадзін*
*Тваёю я была — хвіліну.*

*Перахварэла — і лягчэй,*
*Хоць сэрца загарнула ў вату.*
*Ты толькі навучы яшчэ*
*Не пачувацца вінаватай.*

*У той віне — не патану.*
*Яна сыходзіць на світанні.*
*Таму, прашу, пакінь адну,*
*Прашу, не задавай пытанняў.*

*Мы проста больш не можам*
*быць,*
*Бо «нас з табою» — не існуе.*
*Я паспрабую ўсё забыць.*
*Ты — абяцай, што паспрабуеш.*

*І не хадзі, і не тапчы*
*Сцяжын, што зараслі травою.*
*Я больш не ведаю прычын,*
*Каб мне не быць жывою.*

## Мана

*Паабяцаем болей не маніць,*
*Мана руйнуе душы дзень пры дні.*
*Каму і што баімся распавесці?*
*Няма за праўду лепшага*
*на свеце.*

*Дарэмна думаеш,*
*што ты маной*
*Аддзячыш за каханне і віно.*
*І той, хто сябра хоча*
*падмануць,*
*Заплаціць шчасцем за сваю віну.*

*Плач, калі хочаш, хочаш —*
*весяліся,*
*Як саграшыў, дык Богу памаліся.*
*І будзе так, пакуль імчыць*
*зямля,*
*Бо нават сонца мае пару плям.*

*Ты падмануў, але ж не перамог,*
*Бо праўду падтрымае добры Бог.*
*Падманшчыка пашкадаваць*
*магу,*
*Штоночы ён у памяці ў даўгу.*

*Хай маняць іншыя, а ты,*
*глядзі, трывай.*
*І гэта праўда будзе саграваць.*
*Паабяцай — і вытрымай*
*хоць дзень,*
*Не прадавайся ворагу людзей.*

*Не пашкадуеш, дружа,*
*мне павер,*
*Калі ману адкінеш — ажывеш.*
*Не будзеш сам сябе віной караць,*
*Не будзеш болей долу пазіраць.*
*Хай тыя, каго колісь падмануў,*
*Не прыйдуць, каб нагадваць*
*пра віну,*
*Ды страх жыве*
*ў зняверанай душы,*
*І аніяк яго не задушыць.*

*Сумленне точыць,*
*быццам бы іржа,*
*І ты ідзеш па вострыі нажа.*
*Запомні, дружа, у душы вайну*
*Праіграў ты, калі толькі*
*падмануў!*

## Людзі

*Як цяжка, людзі, вас любіць,*
*Як лёгка вас узненавідзець!*
*Хвіліны, што сышлі ў нябыт,*
*Мы так ахвотна*
*дорым крыўдзе!*

*Мы ўсе імчым — за далягляд!*
*І падаем на слізкім часе.*
*Мы на сябе глядзім — здаля,*
*Паверыўшы, што нам*
*пашчасціць!*

*Мы прамінаем радасць, сум,*
*Не заўважаем момант, вечнасць.*
*І ранкам на траве расу*
*Мы разбіваем недарэчна.*

*Зайздрошчу я табе, мой час!*
*Люблю, кахаю і раўную!*
*Хацела б я з табой маўчаць,*
*Ды ведаю табе цану я!*

*Ты будзеш толькі мой, павек!*
*Бо мы з табой — крыві адзінай!*
*Я ўсё аддам — я чалавек,*
*А ты, мой час, — мая радзіма!*

*Як буду плакаць —*
*слёз не пакажы!*
*Сваім дэкрэтам слёзы адмяняю,*
*А колькі там, на дне маёй душы,*
*Адна я знаю…*

*О, людзі! Я прашу не забіваць!*
*За вас жыццё работу*
*гэту зробіць!*
*О, людзі! Я прашу не забываць,*
*Што час не дазваляе першай*
*спробы!*

*Мне гэта ноч — нібыта*
*ў першы раз —*
*Падорыць зоры, іх аддам табе я.*
*Мы будзем жыць без смутку*
*і параз,*
*Пакуль нам час галовы*
*не пабеліць.*

*Даруем крыўды, станем*
*ля дзвярэй.*
*І зробімся тады чысцей і лепей.*
*О, людзі, вас прашу любіць*
*людзей,*
*А час — хай лечыць!*

***

*Я пайду крыху паплачу.*
*Гэтак ціха, непрыкметна!*
*Сэрца я сваё прылашчу!*
*Ці-то выкіну — на сметнік!*
*Я пайду крыху паплачу,*
*не сказаўшы анікому.*
*Сэрца адвязу на дачу, выганю,*
*бы котку з дому.*
*Выкіну яго на вецер,*
*хай цяпер яго вартуе.*
*Мне ж яно не адзавецца,*
*бо са мною — варагуе.*
*Пахаваю сэрца ў градах, можа,*
*прарасце травою.*
*Сціснy разам з вінаградам —*
*будзе ўсім віно жывое.*
*Запрашу сяброў найлепшых —*
*на вячэру, на бяседу,*
*Сэрца запяку і першай стравай*
*пачастую бедных.*
*У футбол гуляюць дзеці, можа,*
*трэба мячык добры?*
*Забірайце маё сэрца!*
*Да мяча яно падобна!*
*Я прадам яго за шэлег!*
*Я аддам яго, пазычу…*
*Ну нашто мне гэта шэльма,*
*што крычыць*
*штоночы крычма!*
*Не хачу з ім заставацца разам*
*у адным пакоі.*
*Кіну сэрца год на дваццаць,*
*калі будзе непакоіць.*
*«Забярыце маё сэрца!» —*
*я прашу дажджы, завеі.*
*У тваіх руках не б'ецца,*
*дык нікому не даверу!*

## Не сыходзь

*Не сыходзь, пачакай, прашу,*
*Без цябе не магу я дыхаць.*
*Без цябе нават ветру шум —*
*Ціхі-ціхі.*

*Не дары мне фальшывых слоў,*
*Яны свецяць, ды бляск падманны.*
*Не разменьвай мяне на тло,*
*На туманы.*

*Я сяброў не паклічу больш,*
*Цэлы свет падару табе я.*
*Ненавіджу я тых, хто боль*
*Удае, каб здавацца смелым.*

*Праклінаю я ўсіх, хто нас*
*Абражае маною важкай.*
*Але праўда заўжды адна —*
*Гэта цяжка.*

*Ты не кідай маю душу*
*Пад рыпучыя колы лёсу.*
*Усе вершы, што я пішу, —*
*Гэта проста…*

*Гэта проста — успомніць сад,*
*Дзе жывуць і чакаюць цудаў,*
*Дзе вятрыска — у валасах…*
*Ды не буду.*

*Ты мяне не забудзь нідзе,*
*Мне цябе не забыць ніколі,*
*Ты злуешся? Ты ж сам хацеў*
*Трошкі волі.*

*Я цябе не чакаю больш*
*Ні на плошчы, ані на мосце.*
*Мы згубілі так шмат з табой.*
*Будзеш госцем?*

*Не сыходзь і не пакідай:*
*Цэлы свет без цябе — пустыня.*
*Ну чаму ты сказаў «бывай»?*
*Чаму я цябе адпусціла?*

## Яшчэ адна старонка развітання

*Яшчэ адна старонка*
*развітання —*
*І скончаны мой сшытак*
*назаўжды.*
*Без кропак, косак, сумных*
*разважанняў —*
*Пакінула я ў ім свае сляды.*

*Мы, людзі, прадказальныя*
*да смеху,*
*Гляджу я на жыццё, нібы ў кіно,*
*А на мяне глядзяць з высокіх*
*стрэхаў*
*Анёлы або чайкі — ўсё адно.*

*Напэўна, дольш за ўсіх жыве*
*надзея,*
*Трымаецца да самага канца.*
*Хоць ведае, што прыйдзе*
*новы дзеяч*
*І штосьці будзе зноўку*
*абяцаць…*

*Але нішто не зменіцца на свеце:*
*Мы існаваць прывыклі,*
*а не жыць.*
*Усё, што трэба, нам пасля*
*абвесцяць,*
*Сусвет наш застанецца*
*на мяжы,*

*На самым краі…*
*Валадар прыроды,*
*Шукае зграі, каб ісці — за кім?*
*Мы ж лепшага гатунку*
*ці выроды —*
*Мы зноўку набіваем гузакі.*

*Відаць, інакш проста*
*немагчыма,*
*І мы жывём, каб спазнаваць сябе.*
*Глядзім на свет аслеплымі*
*вачыма,*
*Ды не спыняем свой вар'яцкі бег.*

*Знямоглая, здавалася б,*
*да смерці,*
*Я так хачу сысці — за далягляд.*
*Але глыбей хаваю боль у сэрцы:*
*Я не суддзя табе, мая зямля!*

**Пераклала з рускай мовы**
**Таццяна СІВЕЦ**

# Як задаволіць галоўнага чытача?

## Татарскія дзеці розных пакаленняў добра ведалі «Палескіх рабінзонаў» і «Міколку-паравоза»

**Ляля Гімадзеева — выбітная татарская дзіцячая пісьменніца. Аўтар аповесцей і апавяданняў, адрасаваных, як правіла, дзецям малодшага школьнага ўзросту. Працуе і ў галіне мастацкага перакладу. Пераствaрыла на татарскую мову шэраг твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў. Наш карэспандэнт размаўляе з Ляляй Гімадзеевай — пра тое, што пішуць дзіцячыя пісьменнікі Татарстана, што чытаюць дзеці ў Казані і ў ваколіцах.**



**— Ляля, ці можна сёння сцвярджаць, што асобна ў нацыянальнай татарскай літаратуры вылучаецца дзіцячая? Наколькі прыкметнай з'явай стала творчасць пісьменнікаў, якія ў Татарстане працуюць для дзяцей? Хто з сучасных аўтараў карыстаецца найбольшай папулярнасцю ў юнага чытача?**

— Так, безумоўна. У татарскім кніжным выдавецтве, адзіным дзяржаўным, ёсць спецыяльны аддзел, які працуе толькі для дзяцей ды падлеткаў — «рэдакцыя літаратуры дзяцей і падлеткаў», якая карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод дзяцей, пісьменнікаў, настаўнікаў і бацькоў. У гэтай рэдакцыі наладжана цесная сувязь з сучаснымі пісьменнікамі — не толькі, між іншым, татарскімі. Дзіцячыя кнігавыдаўцы надаюць асаблівую ўвагу многім літаратурным жанрам. Штогод у вялікай колькасці выпускаюцца кнігі і класічныя, і сучасных пісьменнікаў.

Што да папулярнасці ў юнага чытача, такіх аўтараў, відаць, вельмі шмат. Штогод праводзіцца спецыяльны конкурс, дзе вызначаюцца кнігі, якія найбольш захапілі чытачоў. Амаль кожны раз атрымліваецца так, што ўзнагароджваюцца розныя аўтары. З сучасных празаікаў папулярнасцю карыстаюцца Рабіт Батула, Султан Шамсі, Галімзян Гільманаў (ён жа і паэт), Алмаз Гімадзееў, Эльміра Шарыфуліна (яна і паэтэса), Вакіф Нурыеў, Рустам Галіулін, Рашат Нізамieў, Каміл Карымаў, сябе таксама магу туды дадаць (бо гэта ж чытачы прагаласавалі). А з паэтаў — Роберт Мінулін, Рэнат Харыс, Флера Тарханва, Марзія Файзуліна, Рэзеда Валіева, Ленар Шаіх, Файруза Муслімава.

**— Вы назвалі столькі імёнаў…**

— Але ў нас дзіцячая літаратура традыцыйна была ў пашане ў саміх творцаў. Першы прафесійны дзіцячы татарскі пісьменнік — Фахрэл-Іслам Агееў. Яшчэ ў 1912 годзе ён заснаваў дзіцячы часопіс «Ак-йул». У апавяданнях выявіў сябе добрым знаўцам дзіцячай псіхалогіі. Дарэчы, у пачатку дваццатага стагоддзя лёс закінуў яго ў Харбін. І настаўнікам у яго там быў нехта Буткевіч. Можа быць, беларус?

**— Мяркуючы па прозвішчы, не выключана… Але пакуль што гэта і для мяне загадка… Ляля, у Казані, Набярэжных Чаўнах болей выдаецца дзіцячай літаратуры на татарскай ці рускай ж на рускай?**

— У Татарстане дзве дзяржаўныя мовы. Кнігі — дарослыя і дзіцячыя — выдаюцца і на татарскай, і на рускай мовах. На татарскай, можа быць, нават крыху болей.

**— Што займае больш значнае месца ў дзіцячай літаратуры Татарстана — кнігі, адрасаваныя самым юным — дашкольнікам, малодшым школьнікам ці творы для падлеткаў? Ці ёсць такое паняцце ў сучаснай татарскай літаратуры, як «аповесць для падлеткаў»?**

— Як на мой погляд, большае месца займаюць кнігі, адрасаваныя дашкольнікам і вучням малодшых класаў. Само паняцце «аповесць для падлеткаў», безумоўна, таксама існуе. Вядомая татарская пісьменніца Лябіба Ісханава (зараз, на вялікі жаль, яна ўжо пакінула свет) вядомая якраз тым, што напісала шмат аповесцей для падлеткаў, якія перакладаліся на многія мовы народаў свету.

**— І я са свайго дзяцінства ў беларускай глыбінцы памятаю яе выдатную кнігу «Дзеці з Сары Алан»…**

— А яе аповесць «Трымайся, акрабат»… Галоўны герой — гультай, лайдак, а вось кніга прываблівае — і педагогаў таксама. Здолела ж пісьменніца выбудаваць цэласны характар свайго героя. Хлапчанё хаця і лайдачнік, але ніколі не падмане, у няпростых сітуацыях вядзе сябе дастойна, сумленна, можна сказаць, на вачах у чытача праходзіць своеасаблівы шлях выпраўлення. Тым, відаць, і сімпатычныя і герой, і кніга… Не меней вядомы татарскі пісьменнік Адлер Тымергалін пакінуў пасля сябе шэраг навукова-фантастычных аповесцей для падлеткаў, якімі і зараз захапляюцца юныя чытачы. У нашых сучаснікаў Султана Шамсі, Алмаза Гідзеева аповесці таксама адрасаваны падлеткам.

**— Наколькі актыўна выдаецца сёння ў Татарстане перакладная дзіцячая літаратура?**

— Перакладная літаратура ёсць. Але, на мой погляд, яе недастаткова. У асноўным перастварaюцца класічныя творы. А сучасная дзіцячая літаратура, на вялікі жаль, па-за ўвагай. Напэўна, з часам давядзецца «даганяць»… Як выправіць сітуацыю? Лічу, што пісьменнікам не хапае асабістых стасункаў, якія раней развіваліся дзякуючы семінарам, канферэнцыям, паездкам у іншыя рэгіёны. Болей праграмны характар насіла і праца цэнтральных кніжных выдавецтваў. Дзяржаўны сектар у гэтым сегменце сёння істотна скараціўся. Ці думае прыватнік пра тое, што ў Татарстане дзеці чакаюць кнігі, напрыклад, Яўгеніі Пастарнак і Андрэя Жвалеўскага — гэта для мяне загадка.

**— Між іншым і Пастарнак, і Жвалеўскі — мінскія аўтары. Праўда, выдаюцца ў Маскве, Санкт-Пецярбургу…**

— А я і не ведала!

**— Як ставіцца крытыка да дзіцячай літаратуры Татарстана?**

— Вялікім аўтарытэтам карыстаецца літаратурны крытык Равіль Рахман. Ён сістэмна вывучае наша прыгожае пісьменства, высока ацэньвае менавіта дзіцячую літаратуру. Але ў нас мала пісьменнікаў, якія б працавалі выключна для дзяцей.

**— Як справа з перыядычным друкам для дзіцячай літаратуры? Якія сёння выдаюцца дзіцячыя часопісы, газеты?**

— Зараз дзяржаўных дзіцячых часопісаў у Казані тры: «Салават куперэ» («Вясёлка») — для дашкольнікаў, «Сабантуй» — для малодшых школьнікаў, «Ялкын» («Полымя») — для падлеткаў. У Набярэжных Чаўнах выходзіць дзіцячая падлеткавая газета «Комеш кынгырау» («Сярэбраны званочак»). На іх старонках друкуюцца вершы, казкі як саміх дзяцей, падлеткаў, так і дарослых пісьменнікаў.

**— Ці змянілася, на ваш погляд, тэматычная прастора дзіцячай літаратуры Татарстана?**

— Ужо вырасла цэлае пакаленне, якое думае зусім «не па-нашаму». Таму і нам самім даводзіцца мяняцца, глядзець на навакольны свет вачыма сучасных дзяцей і падлеткаў. Адпаведна, тэматычная прастора з году ў год мяняецца таксама. Калі не ідзеш у школу, калі не размаўляеш з дзецьмі, а пішаш толькі па сваіх успамінах, то наўрад ці знойдзеш агульную мову з юным чытачом. Але з іншага боку — ёсць жа і вечныя каштоўнасці.

**— Ці ведаюць юныя чытачы дзіцячую літаратуру Беларусі? У нас «культавымі» з'яўляюцца творы Янкі Маўра — «Палескія рабінзоны», Міхася Лынькова — «Міколка-паравоз»… Ці перакладаліся яны на татарскую мову?**

— Творы беларускіх пісьменнікаў Янкі Маўра і Міхася Лынькова мне добра вядомыя — некалі ў дзяцінстве і «Палескіх рабінзонаў», і «Міколку-паравоза» мы чыталі на роднай — татарскай мове. Але сёння я не бачу іх на паліцах кнігарняў. А, пэўна ж, дзіцячая літаратура Беларусі пайшла далёка наперад …

**— Так. Напрыклад, юны чытач адкрыў для сябе Алеся Бадака (яго аповесць «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца…» перакладзена літаральна ў апошнія чатыры — пяць гадоў на дзесяць моў), Алену Тураву (па яе аповесцях фільмы здымаюцца, яна ж і рэжысёрам выступае, дарэчы, ніколькі не горшыя гэтыя творы за кнігі пра Гары Потэра). Адметныя вершаваныя аповесці-гісторыі Наталлі Ігнацэнка, казкі Алены Масла і Людмілы Рублеўскай…**

— Значыць, ужо наспеў час болей пільна прыглядзецца да літаратур адзін аднаго. Спадзяюся, што вашы падказкі пачуюць мае калегі і адкрыюць для юнага чытача ў Татарстане новыя творы сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры.

**Гутарыў Кірыл ЛАДУЦЬКА,**
*Казань — Мінск.*

# «І толькі шчырасць слоў малітвы...»

З сербскім паэтам Вералюбам Вукашынавічам, аўтарам амаль двух дзясяткаў зборнікаў, у ліку якіх «Туга па садзе» (1993), «Дзверы ў ліпах» (2001), «Прабач, ягня белае» (2002), «Садоўнік» (2008), «Твар» (2009) ды іншыя, лёс звёў мяне год таму — падчас фестывалю славянскай паэзіі «Поющие письмена», што традыцыйна ладзіцца пры канцы мая ў расійскай Цвяры. Кароткае знаёмства — і маса ўражанняў ад творчасці. Менавіта вершы В. Вукашынавіча, прасякнутыя глыбокай духоўнасцю, прымусілі мяне захапіцца сербскай паэзіяй.

**Марыя КОБЕЦ,**
**член Саюза пісьменнікаў Беларусі**

**Вералюб ВУКАШЫНАВІЧ**

## Аве, Сербія

*Гэтых слоў не ззянне свечкі*
*ў час дзянніцы,*
*Ды табе прыношу шчыра,*
*Грачаніца.*

*На Відаўдан[1] улетку*
*ў дзве тысячы восьмым,*

*Дзе мы, што мы, хто мы?*
*Голас свой узношу.*

*Прад Тваёй іконай жахнуўся*
*сам Княжа,*
*Што стала аддзеленым —*
*зноўку стане важным.*

*На кані не ездзіў, шаблі*
*не выпрабоўваў,*
*Мне каса напіша малітоўнасць*
*слова.*

*Прад тваёй святою*
*любостынскай фрэскай,*
*Княжа, за што судзіш*
*у царстве нябесным?*

*Покуль на зямлі я намышляю*
*справу,*
*Не дазволь жа ўціхнуць цалкам*
*тваёй славе,*

*І ў страшэнных гульнях*
*спракавечных дэрбі[2]*
*Не згубі ж ты толькі*
*маёй роднай Сербіі.*

1. Відаўдан — галоўнае нацыянальнае свята ў сербаў, адзначаецца 28 чэрвеня.
2. Дэрбі — спаборніцтвы паміж сапернікамі.

## Як ціха, Госпадзі

Ля варот Любостыні

*Як ціха, Госпадзі, як ціха*
*Ля княжацкіх варот тваіх.*
*І кружыць голаў пахам ліпа*
*Ў славенскіх венчыках сваіх.*

*І пчолы залатыя ўранні*
*Ад пчальнікоў манастыра*
*Нясуць сястрынству*
*прывітанні*
*З нябёс ад нашага Айца.*

*Як ціха, Госпадзі, як ціха*
*У храме, што займае дых.*
*І толькі шчырасць слоў*
*малітвы*
*У мудрым пошапце майстрых.*

**Пераклала з сербскай мовы**
**Марыя КОБЕЦ**



# Арт-прышчэпка. Далучайцеся!

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

Унікальны па маштабах і канцэпцыі праект, аналагаў якому не было ў Беларусі, прадстаўлены работамі Канстанціна Селіханава, Канстанціна Касцючэнкі, Паўла Вайніцкага, Таццяны Гомзы, Дзяніса Барсукова, Валерыя Малахава, Вадзіма Мацкевіча, Сяргея Ермаловіча, Ігара Лявонцьева, Пятра Кузьміча, Міхаіла Шыкава, Віктара Астэра. Экспазіцыя складаецца з 14 скульптур з розных матэрыялаў і неаднолькавых памераў. На прыклад, вышыня адной работы дасягае шасці метраў. Агульная вага інсталяцый перавышае 20 тон.

— Спачатку нарадзілася назва праекта, а калі сталі выбіраць месца, вырашылі, што самае зручнае — гэта Камсамольскае возера з больш як дзесяццю астравамі. Востраў Камсамольцаў абраны таму, што тут ёсць пешаходная зона, — паведаміла дырэктар Цэнтра сучасных мастацтваў Наталля Шаранговіч. — Нам хацелася паказаць мінчанам і гасцям сталіцы мастакоў, якія працуюць у розных стылях. Таму не задавалі тэму выстаўкі, — вырашылі стварыць унікальную пляцоўку арт-аб'ектаў у гарадской прасторы.

Праект «Арт-астравы» прадстаўляе не манументальную акадэмічную скульптуру, а пляцоўку public art (творы мастацтва, якія спецыяльна створаны для камунікацыі з гарадской прасторай). Арганізатары выстаўкі выказалі надзею, што ў будучыні «Арт-астравы» змогуць стаць сапраўдным паркам гарадской скульптуры на прыкладзе падобных культурных прастор, якія існуюць у Еўропе.

— «Арт-астравы» — адметная старонка ў культурным жыцці горада. Выдатна, калі парк ператвараецца не проста ў зону адпачынку — становіцца культурнай зонай. Упэўнена, мастацкія аб'екты прымусяць спыніцца, падумаць, адчуць філасофію творцы, — адзначыла галоўны спецыяліст галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама Марына Ясюк.

Генеральным партнёрам праекта «Арт-астравы» выступіў «Альфа-Банк» (Беларусь). Сёлета тут прынята рашэнне аб аказанні спонсарскай дапамогі знакавым праектам у сферы contemporary art Цэнтра сучасных мастацтваў.

— На гэты раз «Альфа-Банк» выступае не толькі як спонсар, але і як удзельнік. На Камсамольскім возеры прадстаўлены ўласны арт-аб'ект нашага банка, створаны пры дапамозе Цэнтра сучасных мастацтваў, — інсталяцыя ў выглядзе прышчэпкі-лаўкі, якая вельмі нагадвае лагатып «Альфа-Банка», — распавяла дырэктар дэпартамента маркетынгу Кацярына Краўцова. — Спадзяёмся, што «Арт-астравы» зробяць горад прывабным не толькі для мінчан, але і для турыстаў.

Вышыня некаторых прасторавых аб'ектаў больш як 5 метраў, таму для іх мантажу мастакам спатрэбілася некалькі дзён. Так, Канстанцін Касцючэнка спецыяльна для праекта стварыў скульптуру «Нялётнае надвор'е». Іранічная



Павел Вайніцкі «Вавілонская вежа».

кампазіцыя ўяўляе сабой два анёльскія крылы, змацаваныя паміж сабою парашутнай сістэмай. А вядомы беларускі скульптар Канстанцін Селіханаў паставіўся да выстаўкі як да чарговай магчымасці паэксперыментаваць. Упершыню за сваю кар'еру майстар стварыў арт-аб'ект з дрэва. Скульптурная кампазіцыя нагадвае падвойную спіраль — структуру малекулы ДНК.

Праект «Арт-астравы» рэалізуецца Цэнтрам сучасных мастацтваў і агенцтвам сацыяльнага маркетынгу «GrandBS» пры падтрымцы Мінгарвыканкама і Міністэрства культуры Беларусі. Экспазіцыя будзе працаваць усё лета.

**Таццяна ШЫМУК**

# Партрэт рамантыка

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

Наталля Віктараўна заўважыла, што творы Валенція Ваньковіча, як і многіх айчынных мастакоў, воляй лёсу апынуліся па-за межамі краіны і сёння прадстаўлены ў музеі толькі ў выглядзе жывапісных копій і рэпрадукцый.

Валенцій Ваньковіч любіў пісаць партрэты блізкіх і сяброў. Ён быў знаёмы з многімі слыннымі творцамі. З Тамашам Занам пасябраваў падчас вучобы ў Віленскім універсітэце. Іх дарогі разышліся, калі Тамаш Зан быў арыштаваны ў 1924 годзе па справе філаматаў.

Тое, што карціна належыць пэндзлю Валенція Ваньковіча, высветлілася адносна нядаўна. Пэўны час работа значылася як «Партрэт невядомага з кнігай» і прыпісвалася аўтарству Аляксандра Варнека. Супрацоўнікі Дзяржаўнага рускага музея выявілі на палатне арыгінальны подпіс Ваньковіча і прыйшлі да высновы, што манера выканання і каларыт партрэта блізкія работам беларускага мастака-рамантыка.

Пецярбургскі літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, кандыдат мастацтвазнаўства Вадзім Старк вызначыў, што на партрэце адлюстраваны Тамаш Зан. На яго думку, партрэт быў створаны ў перыяд з 1937 па 1939 год, калі Тамаш Зан вярнуўся пасля трынаццацігадовай ссылкі і ўладкаваўся бібліятэкарам у Горны Інстытут у Санкт-Пецярбургу, а Валенцій Ваньковіч яшчэ не з'ехаў у Парыж.

Палатно адметнае і тым, што гэта адзіная вядомая жывапісная выява Тамаша Зана. Валенцій Ваньковіч адлюстраваў сябра рамантычным, натхнёным, апантаным ідэямі...

Выстаўку дапоўнілі кнігі і дзённікі з фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, якія распавядаюць пра жыццё Тамаша Зана.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Мелодыі на рысавай паперы

**«Магія ўсходняга пэндзля» — такую назву атрымала выстаўка традыцыйнага кітайскага жывапісу Марыны Эльяшэвіч, якая адкрылася 20 чэрвеня ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. «Суквецце» экспазіцыйных сюжэтаў, як кітайскіх, так і беларускіх, спрыяе дыялогу культур. Усе карціны выкананы тушшу і мінеральнымі фарбамі на рысавай паперы ў колеры альбо манахромных танах.**

Лаканічныя, але поўныя гармоніі вывы дзяўчат-музыкаў у нацыянальнай вопратцы Паднябеснай дапаўняюцца партрэтамі прыгажунь з Беларусі, майстрыц ігры на флейце, цымбалах, акарыне. Яркія арнаменты, архітэктурныя і фларыстычныя матывы гарманічна завяршаюць карціны. Сустракаюцца і прыродныя вобразы: трапяткія кветкі, свабодалюбівыя птушкі...

У творчасці мастачкі не толькі экзатычны каларыт, але і мяккая, душэўная



Майстар-клас ад Марыны Эльяшэвіч.

жаночая пачуццёвасць. Куратар выстаўкі, кандыдат мастацтвазнаўства Яўген Шунейка адзначыў: «У работах Марыны Эльяшэвіч нязменна прысутнічае блізкасць дзвюх культур — беларускай і кітайскай. Яе карціны не «крычаць», а далікатна запрашаюць гледачоў на даверлівы дыялог, дапамагаюць прыйсці да ўзаемаразумення».

У рамках экспазіцыі можна пазнаёміцца і з творчай «кухняй» кітайскіх майстроў жывапісу, у тым ліку самой Марыны Эльяшэвіч: тут пэндзлі з натуральнай воўны, мінеральныя фарбы для жывапісу го-хуа, чорная туш, надзвычай тонкая рысавая папера, якая дазваляе перадаваць пераліvы тонаў і колеру. Гэтыя прадметы ўжо самі па сабе мастацтва і адлюстроўваюць непаўторны почырк таго ці іншага творцы.

Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў падчас адкрыцця выстаўкі



«Дуэт двух сэрцаў». 2014 г.

падкрэсліў: «Марына Эльяшэвіч засёды верная свайму стылю, але, разам з тым — у пастаянным пошуку новых тэм і вобразаў. Беларускія матывы праламляюцца праз кітайскае выяўленчае мастацтва і надаюць яе карцінам непаўторнасць».

Пасля адкрыцця экспазіцыі Марына Эльяшэвіч правяла своеасаблівы майстар-клас па стварэнні на белым скрутку жывапіснага палатна ва ўсходнім стылі, якое перадала ў дар музею.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**


ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ





Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 25.06.2015 у 11.00
Ум. друк.11 арк. 3,72
Наклад — 2225.
Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3, 220073, Мінск.

Заказ — 1477 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12